# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Англічына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 12-13 (242-243) | 25 сакавіка 1955 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


## 1918 25 Сакавіка 1955

# *Пад дзяржаўніцкім сьцягам БНР*

**«...Цяпер мы, Рада БНР скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край,**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго Ўстаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі».**

Гэтыя словы былі сказаныя 37 год таму назад Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску 25 сакавіка 1918 году ў ейнай трэйцяй грамаце, ведамай пад назвай Акту 25 Сакавіка. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны сувэрэнны ворган беларускага народу, словамі гэтымі абвесьціла вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць Беларусі ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой была дагэтуль Беларусь. Такім чынам на развалінах гістарычнае турмы народаў — царскае Расеі, побач з многімі народамі, ёю паняволенымі, у гэты гістарычны 1918 год паўстаў да вольнага й незалежнага дзяржаўнага жыцьця і беларускі народ.

Каб зразумець усю веліч Акту 25 Сакавіка ды прасачыць ягонае значэньне ў гістарычным аспэкце, нельга ня кінуць вокам хоць у некалькіх словах на мінуўшчыню беларускага народу, на часы ягонага дзяржаўнага незалежнага жыцьця, як і гады заняпаду й няволі.

На сяньняшняй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі і некаторых сумежных зь ёю тэрыторыях раньняя гісторыя застае беларускі народ ужо ў IX—X стагодзьдзі нашае эры, які тады твaрыў рад удзельных незалежных княстваў, спасярод якіх удзельныя княствы крывіцкага племені Полацкае й Смаленскае ў XI—XII стагодзьдзях дасягаюць высокае ўзроўні палітычнага й культурнага разьвіцьця. У XIII стагодзьдзі ўвесь беларускі народ, падзелены на паасобныя ўдзельныя княствы, задзіночваецца ў вадзіным дзяржаўным арганізьме — Вялікім Княстве Літоўскім, якое, апрача ўсяе этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі, як ягонай цэнтральнай і аснаўной часьці, уключае ў сябе тэрыторыю сучаснай Літвы і на працягу ладнага часу вялікую часьць Украіны.

Тэндэнцыйныя гісторыкі суседніх нам народаў, прэтэндуючых на беларускія землі, стварылі хвальшывую тэорыю, што беларускі народ уваходзіў у Вялікае Літоўскае Княства, як народ заваяваны, і што ягоная роля і ўдзельная вага ў гэтым княстве была другарадная. Гэтая тэндэнцыйная тэорыя ў вялікай меры была перанятая й гісторыкамі Захаду. У запраўднасьці-ж, у Вялікім Літоўскім Княстве якраз Беларусы былі народам найбольш актыўным і дзяржаўна творчым, служылі культурным узорам для ўсіх астальных народаў, уваходзячых у склад Вялікага Княства, а беларуская мова была ўзьнесеная на вышыню мовы дзяржаўнай і мовы культурных і асьвечаных слаёў грамадзянства ня толькі ў этнаграфічнай Беларусі, але й на небеларускіх тэрыторыях Княства. Такім чынам беларускі народ быў не аб'ектам у гэтай дзяржаве, але ейным суб'ектам, і таму Беларусы зусім правільна ўважаюць сяньня гэтае Княства за сваю дзяржаву. Гэта была ў той час найвялікшая палітычная, мілітарная й культурная сіла на ўсходзе Эўропы, а беларуская культура дасягнула, асабліва ў сваім «залатым» XVI стагодзьдзі, свайго зэніту. Прыкладам гэтага можа служыць хоць-бы факт, што ўжо ў 1517 годзе паяўляецца ў Беларусаў друкарства, запачаткаванае і далей разьвіванае д-рам Францішкам Скарынаю з Полацку, калі ў Маскве першае друкаваньне кніжак пачынаецца 65 год пазьней, будучы туды занесеным Беларусам, вучнем Скарыны.

Дзякуючы палітычным вуніям Вялікага Літоўскага Княства з Польшчаю, асабліва Люблінскай Вуніі ў 1569 годзе, Беларусь уваходзіць у фэдэрацыйную сувязь з польскім каралеўствам. У сэньсе абаронным гэтая вунія была зьявішчам дадатнім у вабліччы частых войнаў з Маскоўшчынай на ўсходзе і нямецкім крыжацкім законам на захадзе. Затое з глєдзішча палітычнага вунія сталася пачаткам заняпаду сьпярша беларускае культуры, а пазьней і заняпаду палітычнага. Хаця юрыдычна Вялікае Літоўскае Княства аж да 1793 году, г. зн. да другога разьдзелу Польшчы, было незалежнай дзяржавай, задзіночанай фэдэральнымі сувязямі з Польшчай на правох раўнапраўнага партнэра з апошняй, то ў галіне культурнай, пачынаючы з канца XVI стагодзьдзя, пранікаючыя на Беларусь польскія ўплывы што раз болей і шырэй пачынаюць выціскаць элемэнты беларускія. У выніку гэтага, у XVII, а яшчэ больш у XVIII стагодзьдзі беларуская арыстакрацыя, шляхта й мяшчане, што засілялі да гэнага часу рады беларускае інтэлігенцыі і тварылі сабой асьвечаны слой грамадзянства, палянізуюцца, пераймаюць польскую культуру, польскую мову, а за гэтым і сьведамасьць польскай нацыянальнай прыналежнасьці. Аснаўная-ж маса беларускага народу — сялянства не паддалося палянізацыі, але гэты сацыяльны слой народу не адыйгрываў тады ніякай ані палітычнай, ані культурнай ролі.

Але найбольш цёмны і трагічны пэрыяд гісторыі беларускага народу пачынаецца пасьля другога падзелу Польшчы ў 1793 годзе, калі амаль уся беларуская тэрыторыя была ўлучная ў склад расейскае імпэрыі. Расейскі царскі ўрад пастанавіў поўнасьцю зрусыфікаваць беларускі народ і адразу-ж павёў сваю палітыку дасягненьня гэтае свае мэты. Русыфікацыйны працэс Расея пастанавіла праводзіць двума галоўнымі спосабамі: спосабам урадавай і паліцыйнай забароны беларускага нацыянльнага жыцьця ды прымусовай русыфікацыяй — з аднаго боку, а так-жа спосабам штучнага спыненьня культурнага разьвіцьця народу наагул і трыманьня яго ў стане адсталасьці й цемры — з другога. Гэткім чынам ліквідуюцца на тэрыторыі Беларусі вышэйшыя навучальныя ўстановы, Віленскі Унівэрсытэт і Полацкая Акадэмія, звужаецца сетка сярэдняга школьніцтва. У 1839 годзе ліквідуецца царскім загадам беларуская нацыянальная грэка-каталіцкая царква, забараняецца ў сьвятынях ужываньне беларускае мовы, а ў 1867 годзе наступае забарона друку ў беларускай мове, якая трывае аж да 1905 году. Таксама штучна абніжаецца матарыяльная ўзроўня й сацыяльнае становішча беларускага сялянства шляхам усіленьня прыгону. Наш нацыянальны назоў эпохі ўдзельных княстваў — Крывічы зусім вычыркваецца з расейскай тэрміналёгіі ў дачыненьні да беларускага народу. Наш пазьнейшы нацыянальны назоў эпохі Вялікага Літоўскага Княства — Ліцьвіны таксама адбіраецца ад нашага народу і пераносіцца на невялікі народ, які дагэтуль ніколі Ліцьвінамі не называўся, называючы сябе Жмудзінамі — Жамойцямі. Расея, у мэтах хутчэйшае русыфікацыі беларускага народу і дзеля адарваньня яго ад традыцыі Вялікага Літоўскага Княства, накідае яму амаль няведамы дагэтуль назоў Беларусаў, які, нажаль, пакутуе й да сяньня.

Чаго не даканала польская культурная экспансія на Беларусі на працягу двух апошніх стагодзьдзяў існаваньня Вялікага Літоўскага Княства, тое зрабіла і завяршыла царская Расея. Дзякуючы яе русыфікацыйнай палітыцы і палітыцы трыманьня народу ў культурнай адсталасьці й цемры, наступае поўны палітычны, нацыянальны, культурны й сацыяльна-эканамічны заняпад Беларусі. Народ траціць сваю нацыянальную сьведамасьць і становіцца пасыўнай этнаграфічнай масай, зьяўляецца аб'ектам русыфікацыі з аднаго боку і далейшай палянізацыі — з другога.

Такое палажэньне мела той трагічны для беларускага народу вынік, што, калі ў пачатку XIX стагодзьдзя пачынаецца пад уплывам рамантычных ідэяў і Напалеонаўскіх паходаў нацыянальнае адраджэньне беларускага народу, дык традыцыя ягонай мінулай славы, магутнасьці й культурных багацьцяў эпохі росквіту Вялікага Літоўскага Княства была ўжо зусім парваная. Яна ўжо не магла аджыўляць сваімі сокамі нацыянальнага руху беларускага адраджэньня. Усё цяпер трэба было тварыць ад самага пачатку. Новая беларуская культура пачынае разьвівацца не на беларускай культурнай спадчыне эпохі ўдзельных княстваў і эпохі Вялікага Літоўскага Княства, але на элемэнтах фальклёрнай культуры беларускага сялянства. Беларуская літаратурная мова пачынае ў XIX стагодзьдзі тварыцца не на базе беларускай літаратурнай і ўрадавай мовы Вялікага Княства Літоўскага, але на базе чыста народнай мовы беларускага цэнтральна-заходняга дыялекту.

Беларускае нацыянальнае адраджэньне спачатку мела выключна культурны аспэкт, як адраджэньне літаратуры, культуры і передусім мовы, і толькі пазьней, побач з мамэнтамі культурнымі, даходзіць да голасу і аспэкт палітычны. Беларускі паэта другой палавіны XIX стагодзьдзя Францішак Багушэвіч, названы бацькам беларускага нацыянальнага адраджэньня, кідае лёзунг: **«Беларусы, ня чурайцеся мовы вашае беларускае, каб ня ўмерлі!»** Правадыр беларускага паўстаньня 1863 году, прызнаны потым беларускім нацыянальным героем, Кастусь Каліноўскі, будучы асуджаным царскім урадам на сьмерць, з турмы перасылае беларускаму народу свой палітычны тэстамант: **«Толькі тады, беларускі народзе, зажывеш шчасьліва, калі ўжо болей Маскаля над табою ня будзе».**

Беларускае нацыянальнае адраджэньне, паклаўшы ў васнову два гэтыя лёзунгі, выліваецца ў масавы нацыянальна-адраджэнскі рух толькі пасьля рэвалюцыі 1905 году, калі была скасаваная забарона беларускага друку і наступілі некаторыя палітычныя палёгкі для Беларусаў. Беларускі адраджэнскі рух, канцэнтруючыся й цяпер галоўна ў галіне культурнай, пачынае, аднак, ужо ставіць перад сабой і палітычныя мэты. Але да першай сусьветнай вайны канцэпцыя поўнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі яшчэ праяўлялася слаба; сярод Беларусаў дамінавалі яшчэ або канцэпцыі аўтанамічныя або фэдэралістычныя ў складзе расейскае імпэрыі. Толькі бурлівыя падзеі, выкліканыя сусьветнай вайной і лютаўскай рэвалюцыяй у Расеі ў 1917 годзе, прысьпешылі насьпяваньне і ў Беларусаў ідэі поўнай дзяржаўнай незалежнасьці, што й выразілася ў пастановах Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў 1917 годзе ды завяршылася ў векапомным Акце 25 сакавіка 1918 году, 37-ую гадавіну якога й адзначаем мы сяньня.

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Няма падставаў да пэсымізму

Сярод беларускай эміграцыі амаль на кажным кроку можна пачуць думку, што Захад **не разумее** нашых імкненьняў. А нярэдка можна сустрэцца й з такім паглядам, што Захад ня толькі не разумее нас, але й **ня хоча** разумець. Аргумантамі для падмацаваньня такіх думак зьяўляецца абыякавасьць вольнага сьвету ў вадносінах да беларускага пытаньня, амэрыканскі прынцып «непрадрашэнства», фаварызацыя Амэрыканцамі акцыі расейскай эміграцыі і г. д.

Такія думкі, пагляды ды разважаньні, хоць і поўнасьцяй апраўданыя, тым ня менш, калі яны закранаюць праблему за павярхоўна, дык, засяваючы пэсымізм у нашых радох, адмоўна адбіваюцца на імклівасьці й напружаньні грамадзка-палітычнай дзейнасьці нашае эміграцыі.

Мы ні ў якім выпадку ня зьбіраемся запярэчваць існаваньня вышэй успомненае абыякавасьці Захаду ці амэрыканскага «непрадрашэнства». Наадварот, падкрэсьліваем, што «непрадрашэнства» й надалей зьяўляецца прынцыпам амэрыканскае палітыкі ў вадносінах да будучага палітычнага ўпарадкаваньня Ўсходняй Эўропы. Гэты прынцып прабіваецца хаця-б і ў дзейнасьці Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму. Таксама поўнасьцяй разумеем, наколькі гэты прынцып сваім нэгатыўным фармуляваньнем мэты змаганьня паняволеных народаў адмоўна адбіваецца на наважнасьці й актыўнасьці гэтага змаганьня. Кажнаму з нас ясна, што беларускі патрыёт будзе змагацца супраць бальшавізму толькі тады, калі будзе ведаць, што пpазь зьнішчэньне бальшавізму ён асягае сваю мэту — незалежную Беларусь. Змагацца-ж па тое, каб адну няволю замяніць другой — няма найменшага сэнсу.

Нажаль, таго, што для нас зьяўляецца самазразумелым, Амэрыканцы, прыкладам, часта ніяк ня могуць разумець. А мы нярэдка ў гэткіх выпадках пачынаем дашукоўвацца нейкіх няведамых прычынаў, а часта й злое волі ды варожага настаўленьня Амэрыканцаў да беларускае праблемы.

Вось-жа, каб паставіць справу ясна, мы мусім перадусім самі зразумець Амэрыканцаў, або, інакш кажучы, зразумець, чаму яны нас не разумеюць, ці прынамся не заўсёды разумеюць. Прычынаў такога палажэньня вельмі шмат. Тыя зь іх, што на нашую думку, зьяўляюцца найважнейшымі, пастараемся тут разгледзіць.

а) Перадусім, нельга забывацца, што больш за паўтара стагодзьдзя Беларусь як дзяржава ня існавала. Да гэтага, сьведамым фальшаваньнем нашае гісторыі, як Расейцы, так і Палякі, імкнуліся давесьці, што наагул беларускае дзяржавы ніколі ня было. Дык нічога дзіўнага, што для Амэрыкі, як і для Захаду, які сілай абставінаў карыстаўся гэтымі расейскімі ці польскімі дадзенымі, Беларусь не магла быць нічым іншым, як аднэй з правінцыяў Расеі. Горш тое, што яшчэ й сяньня ладная частка зь іх разглядае Беларусь ці Ўкраіну ў падобнай плошчы. А дзеля гэтага, беларускае пытаньне як палітычная праблема, паводля іх зьяўляецца нутраным пытаньнем Расеі й не павінна ўваходзіць у вабсяг міжнароднага зацікаўленьня.

б) Зь беларускім пытаньнем у сэньсе палітычным заходні сьвет меў нагоду толькі вельмі абмежавана пазнаёміцца ўжо пасьля рэвалюцыі 1917 году й на працягу апошняй вайны ды пасьля яе. Што да самых Амэрыканцаў, дык яны даслоўна не раней, як 10 гадоў таму даведаліся аб існаваньні пытаньня незалежнасьці Беларусі. У ўмовах тых рэжымаў, якія існавалі на Беларусі й які існуе цяпер, Беларусы ня мелі магчымасьці голасна заяўляць аб сваіх патрабаваньнях. Гэта магла рабіць толькі палітычная эміграцыя. Нажаль, да апошняе сусьветнае вайны, беларуская палітычная эміграцыя была заслабая, каб ейны голас мог быць пачуты. Дзеля гэтага трэба зазначыць, што сучасная беларуская эміграцыя зьяўляецца першай, якая пазнаёміла й далей знаёміць заходнія дзяржавы зь імкненьнямі беларускага народу. Гэтае знаёмства аднак яшчэ за павярхоўнае й за сьвежае, каб яно магло адразу-ж вырашальна заважыць на зьмене тых ці іншых амэрыканскіх канцэпцыяў у вадносінах Усходняе Эўропы.

в) Палітычная дзейнасьць расейскае эміграцыі, пачынаючы ад 1917 году, у значнай ступені была накіраваная на заглушаньне голасу нацыянальных эміграцыяў, а ў тым ліку й беларускай, ды на тэндэнцыйнае й фальшывае інфармаваньне заходняга сьвету аб нацыянальных праблемах расейскае імпэрыі. Пачынаць-жа сваю дзейнасьць на эміграцыі Расейцам было куды лягчэй, чымся нашым беларускім эмігрантам пасьля апошняе вайны. Значная частка зь іх, асабліва арыстакрацыя, абшарнікі й капіталістыя яшчэ задоўга да эміграцыі мелі ўжо сувязі й знаёмствы ды капіталы ў банках за межамі. Яны цераз гэтыя знаёмствы аўтаматычна мелі доступ туды, куды нашаму эмігранту цяжка было дабіцца. Якраз уплыў гэнае пасьлярэвалюцыйнае расейскае эміграцыі зрабіў тое, што яшчэ й сяньня нярэдка можна на Захадзе сустрэць ня толькі якогась мешчаніна, але й чалавека навукі ці палітыкі, які, як атуманены, на рэчаіснасьць Усходняе Эўропы глядзіць вачыма расейскага пасьлярэвалюцыйнага эмігранта. Ён ня хоча чуць аб нейкім нацыянальным пытаньні, аб нейкіх правох на незалежнасьць; для яго найважнейшае — гэта «матушка-Расея» з усімі ейнымі рамантычнымі прыдаткамі, пачынаючы ад балалайкі й канчаючы «ямщиком» ды «тройкой с бубенцами». І паспрабуй такому давесьці, што гэтая «матушка» зьяўляецца й жандармам і турмой!

г) Другая сусьветная вайна таксама ў значнай ступені спрычынілася да ўзмацненьня прарасейскіх сымпатыяў на Захадзе й асабліва ў Амэрыцы. Супольнае змаганьне супраць агульнага ворага, крывавыя мільённыя ахвяры, цаной якіх бальшавікі дамагаліся перамогі над Немцамі, не маглі ня выклікаць у Амэрыканцаў падзіўленьня, спачуваньня й сымпатыі. Яны не маглі тады разьбірацца, што такое СССР — іхнымі саюзьнікамі былі «Russians» і гэтага ім было дастаткова. Гэта якраз у гэты пэрыяд маса амэрыканскіх палітыкаў, журналістых, назіральнікаў, дараднікаў і г. д. чуліся ў Маскве ня горш як у Амэрыцы, бо, як ні як, тут была эгзотыка, крамлёўскія прыняцьці, экстаза перамогі й вечнага сяброўства. І якраз яны пасьля, нярэдка, атуманьвалі амэрыканскае грамадзтва сваімі ўспамінамі. Навет вятры

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Пад дзяржаўніцкім сьцягам БНР

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

Гэты кароткі й фрагмэнтарычны агляд пройдзеных беларускім народам гістарычных этапаў ускрывае перад намі два вельмі важныя й цікавыя мамэнты. Папершае, гэта тое, што спасярод народаў, якія ў сілу гістарычных абставінаў страцілі сваю свабоду, беларускі народ апынуўся бадай што ў найгоршым, здавалася-б, зусім безнадзейным і бязвыхадным палажэньні. З народу дзяржаўна творчага і культурна разьвітага ён скаціўся да ролі пасыўнае этнаграфічнае масы. Ягоная поўная нацыянальная сьмерць здавалася немінучай.

З другога-ж боку, гэты народ, калі і для яго засьвітала зара адраджэньня, за кароткі час выявіў столькі жыцьцёвых сілаў, творчых здольнасьцяў, духовага гарту й прагрэсу, што ў пэрыяд развалу царскае расейскае імпэрыі ў 1917 годзе, разам зь іншымі, больш шчасьлівымі і болей прыгатаванымі народамі гэтае імпэрыі, горда ўзыйшоў на шлях сабскага дзяржаўнага жыцьця. Ён абвесьціў сваю дзяржаўную незалежнасьць, на кароткі час стварыў сабскую дзяржаўнасьць, за яе змагаўся і змагаецца аж да апошняга часу за яе аднаўленьне.

Такое шыбкае нацыянальнае адраджэньне беларускага народу і ня менш шыбкае разьвіцьцё ягонае палітычнае думкі выклікае сярод многіх чужых дасьледавальнікаў беларускае праблемы няўпэўненасьць што да сілы й палітычнае накіраванасьці беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Многія зь іх ставяць перад сабою пытаньне: ці беларускі народ узапраўды імкнецца да сабскага дзяржаўна незалежнага жыцьця й адарваньня ад Расеі, ці, наадварот, апрача культурнай ды можа самаўрадавай аўтаноміі ў межах адзінай і непадзельнай «матушкі Расеі», нічога болей для сябе не жадае. Гэты апошні пагляд намагаюцца прышчапіць на Захадзе імпэрыялістычна настроеныя расейскія эміграты, пераконваючы Захад, што ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі зьяўляецца чужой для беларускага народу, як штучна створаная жменькай сэпаратыстычна настроенай беларускай інтэлігенцыі.

Але на гэтае кардынальнае пытаньне найлепшы і найпраўдзівейшы даў адказ сам беларускі народ, як такі, а ня толькі ягоная інтэлігенцыя. Бясспрэчны для нас факт, што тварцом і пазьнейшым абаронцам Акту 25 Сакавіка быў якраз сам беларускі народ, што ідэі беларускае дзяржаўнасьці зьяўляюцца неадлучнай арганічнай часткай ягоных духовых імкненьняў, пацьвярджаецца многімі мамэнтамі, над найважнейшымі зь якіх коратка на канчатак задзяржымся.

1. Акт 25 сакавіка 1918 году, якім абвяшчалася аб разрыве дзяржаўных сувязяў з Расеяй і праклямавалася дзяржаўная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, быў выражэньнем вольнае волі беларускага народу, быў актам, юрыдычная сіла якога бясспрэчная. Вялікая Беларуская Рада, якая задзіночвала тады ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі й палітычныя партыі, пастанавіла склікаць у Менску ў сьнежані 1917 году Першы Ўсебеларускі Кангрэс, злoжаны з выбраных дэмакратычным спосабам дэлегатаў беларускага народу з усіх этнаграфічных тэрыторыяў Беларусі. Мэтаю Кангрэсу было вырашэньне ў той бурлівы час далейшага лёсу беларускага народу і ягонай дзяржаўнай будучыні. На Кангрэс, які распачаўся ў Менску 18 сьнежня 1917 году, зьехалася з усёй Беларусі 1 872 дэлегатаў, зь якіх 1 167, што былі выбраныя насельніцтвам, мела права пастанаўляючага голасу, а толькі 703, што выбраных мандатаў ня мелі, карысталіся голасам дарадчым. У сваёй рэзалюцыі Кангрэс выказаўся за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Але ў вадказ на гэта бальшавікі, якія ўжо тады кантралявалі Беларусь, 30 сьнежня разагналі Кангрэс фізычнай збройнай сілай. Але назаўтрае 31 сьнежня Кангрэс сабраўся ў поўным сваім складзе ў іншым месцы, дзе перадаў свае паўнамоцтвы аж да часу магчымых вольных выбараў у Беларусі абранай раней сваёй Радзе. Вось-жа гэтая Рада Кангрэсу, перайменаваўшыся потым у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі ды абапіраючыся на дадзеныя ёй Кангрэсам неабмежаваныя паўнамоцтвы, 25 сакавіка 1918 году абвесьціла Беларусь вольнай незалежнай дэмакратычнай рэспублікай і заявіла аб разрыве ўсякіх дзяржаўных сувязяў з Расеяй.

З вышэйшага бачым, што юрыдычная сіла Акту 25 Сакавіка зьяўляецца бясспрэчнай, тым болей, што хутка пасьля гэтага, шэсьць эўрапэйскіх дзяржаваў вызналі сувэрэннасьць Беларусі «дэ юрэ»: Украіна, тры Балтыйскія дзяржавы, Фінляндыя й Грузія. Чэхаславаччына, Турэччына, Аўстрыя і Нямеччына (пасьля дэтранізацыі кайзэра Вільгэльма) вызналі БНР «дэ факто».

2. Зь першых дзён арганізацыі мясцовых ворганаў БНР беларускі народ ахвотна ім падпарадкаваўся, уключыўся ў актыўнае зь імі супрацоўніцтва і, што найважней, масава выступіў на збройнае змаганьне ў вабароне Беларускай Народнай Рэспублікі. Калі бальшавіцкая армія акупавала Беларусь, на ўсёй беларускай тэрыторыі пачалі ўспыхваць антыбальшавіцкія народныя паўстаньні. Некаторыя зь іх насілі стыхійны характар, бязь ясна абазначанай мэты, але многія, як, прыкладам, найвялікшае і найслаўнейшае зь іх Слуцкае Паўстаньне канца 1920 году, вяліся арганізавана пад сьцягам беларускай дзяржаўнасьці і ставілі сабе за мэту ўстанаўленьне й абарону БНР. Галоўнай прычынай таго, што не ўдалося ўмацаваць і абараніць беларускай дзяржаўнасьці, была не адсутнасьць падтрыманьня з боку беларускіх народных масаў, але поўная адсутнасьць падтрыманьня з боку заходніх дзяржаваў.

3. Ідэя беларускай дзяржаўнай незалежнасьці сталася ад 1918 году ідэйнай асновай усяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. У Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, створанай бальшавікамі ў процівагу Беларускай Народнай Рэспубліцы, увесь апазыцыйны да савецкага рэжыму беларускі нацыянальны рух аж да ягонае крывавае ліквідацыі ў 1930 і наступных гадох, ставіў канчальнай сваёй мэтай ліквідацыю савецкага ладу й адбудову незалежнай Беларусі, што пацьвярджаюць і самі бальшавікі. Пад дзяржаўніцкім сьцягам БНР разьвівалася ўвесь час беларуская нацыянальная акцыя і ў Заходняй Беларусі, якая да 1939 году знаходзілася пад Польшчай. Ані тады, ані сёньня на эміграцыі нельга навет выабразіць тэй ці іншай беларускай арганізацыі або партыі, нельга сабе прадставіць тэй ці іншай саліднейшай беларускай акцыі, у васнову якіх ня былі-б паложаныя ідэі дзяржаўнай незалежнасьці. Навет розныя беларускія апартуністычныя ўгрупаваньні, інсьпіраваныя часта для дывэрсыйных мэтаў ворагамі беларускай дзяржаўнасьці, высоўваюць у сваіх праграмах незалежніцкія прынцыпы Акту 25 Сакавіка, добра ведаючы, што без гэтага акцыя іхная будзе згары асуджаная на правал.

Ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі сталася такім чынам арганічнай часткай душы беларускага народу, ягонай рухаючай сілай, ягоным натхненьнем і ягонай канчальнай мэтай. А ў гэтым ляжыць найбольшая зарука, што ідэя беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, як і кажная вялікая й жывая ідэя, раней ці пазьней затрыюмфуе над сілаю накіданымі беларускаму народу хвальшывымі ідэямі і станецца дакананым фактам.

Язэп Каранеўскі

# Няма падставаў да пэсымізму

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

халоднае вайны не змаглі зь іх вывеяць набытага прарасейскага духу.

д) Узрост камуністычнае небясьпекі і ў сувязі з гэтым разгорнутая псыхалягічная вайна магла-б раз назаўсёды адкрыць Амэрыканцам вочы на нацыянальныя праблемы ў СССР, калі-б ізноў не адна недарэчнасьць. Для студыяваньня СССР былі пазакладаныя шматлікія ўстановы, інстытуты й сэмінары ці пры ўнівэрсытэтах ці як самастойныя адзінкі. Кіраўнікамі-ж у іх, ці прынамся выкладчыкамі й дасьледвальнікамі аказаліся Амэрыканцы расейскага паходжаньня ці прарасейска настаўленыя. А ў выніку — у іхных працах і дасьледваньнях праблемы нявыгадныя Расейцам, калі не хвальшыва насьвятляюцца, дык прынамся прамоўчваюцца, як няістотныя. Запраўднаму Амэрыканцу цяжка зразумець такое зьявішча: ён ня можа сабе ўявіць, як амэрыканскі навуковец, хоць-бы сабе й расейскага паходжаньня, можа ў навуковай працы дапускаць тэндэнцыйнасьць для абароны расейшчыны.

е) Нарэшце, ня трэба забывацца, што Амэрыканцы зьяўляюцца яшчэ маладой нацыяй, але аднача́сова якую падзеі апошніх дзесяцігодзьдзяў вынеслі на кіруючае становішча ў сяньняшнім сьвеце. У сувязі з гэтай вялізарнай і адказнай роляй, якая ўзвалілася на іх так раптоўна, цяжка патрабаваць, каб яны адразу былі беззаганнымі на гэтым становішчы. А такія праблемы, як нацыянальныя, нельга дастаткова пазнаць ды зразумець за год ці два, на гэта патрабуецца часу.

Падсумаваўшы вышэй сказанае, хтонебудзь можа падумаць, што беларуская справа ў гэтым сьвятле калі не прадстаўляецца трагічна, дык што найменш ёсьць падставы на пэсымізм. Вось-жа зусім не. Ужо ўзяўшы на ўвагу хаця-б сабе сказанае ў вапошнім пункце, мы маем моцныя падставы на тое, каб думаць, што Амэрыканцы чым далей, тым больш будуць падрабязна ўглядацца ўва ўсе аспэкты й галіны міжнароднага жыцьця, на чале якога яны апынуліся. А тады напэўна ня змогуць абмінуць моўчкі й нашае праблемы, ад развязаньня якое ў значнай ступені будзе залежыць супакой у гэтай частцы Эўропы. Гэта пацьвярджае й эвалюцыя амэрыканскае апініі на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя. Амэрыканцы даказалі, што яны здольныя за кароткі час зьмяніць свой пагляд, калі маюць на гэта дастаткова аргумэнтаў. Хто мог-бы, прыкладам, падумаць у 1945 годзе, што камуністычная партыя ў Амэрыцы будзе забароненая? Сяньня — гэта факт. У гэтым-жа годзе, Беларус у Нямеччыне мусіў даказваць Амэрыканцам, што ён Паляк, калі не хацеў быць прымусова рэпатрыяваны; сяньня-ж наадварот, Амэрыканцы, хоць і стаяць на «непрадрашэнстве», прызнаюць аднак Беларусаў як нацыю.

У краіне, дзе ўрад мусіць лічыцца з публічнай апініяй, цяжка праводзіць раптоўныя палітычныя зьмены, на якія мае ўплыў гэтая апінія. Камуністычную партыю можна было толькі тады забараніць, як ужо грамадзтва да гэтага было адпаведна падрыхтаванае. А трэба зацеміць, што прарасейская арыентацыя Амэрыканцаў таксама пачынае слабець. Ёсьць ужо навет адзінкі, што займаюць вельмі выдатныя й адказныя становішчы, і якія выразна выказваюцца на баку нерасейскіх народаў, а ў тым ліку й Беларусаў.

З гэтага вынікае, што «непрадрашэнства» ёсьць толькі адным з этапаў амэрыканскае палітычнае думкі. Як доўгім акажацца гэты этап, будзе ў вялікай меры залежыць і ад нас самых. Сяньня, замест прыпісваньня злой волі Амэрыканцам, мы мусім перадусім паказваць і даводзіць ім усю ілжывасьць расейскай шавіністычнай прапаганды, ці то з боку самых Расейцаў ці Амэрыканцаў расейскага паходжаньня, якая перашкаджае амэрыканскаму грамадзтву зарыентавацца ў запраўднай сытуацыі. Трэба аднак ведаць, што галаслоўным даводжаньнем мы гэтай мэты не дасягнем: на гэта трэба заўсёды даваць ясныя й моцныя аргумэнты, якіх у нас ёсьць дастаткова, і аб якіх будзе мова ў наступным нумары «Бацькаўшчыны».

На заканчэньне трэба дадаць, што пераглядзіўшы эвалюцыю Захаду ў адносінах да нашае праблемы, запраўды няма найменшае прычыны да пэсымізму. Наадварот, яна даказвае, што нашае пытаньне, гэта ўжо ня нутраная справа расейскай імпэрыі, а праблема, вырашэньне якое ўваходзіць у міжнародны абсяг.

А. Галубіцкі

# На шляху да самагубства

Аб будучыні можна пісаць парознаму. Можна расказваць, што здарыцца ў такім ці іншым годзе, або можна перанесьціся думкамі на пэўную колькасьць гадоў наперад і пасьля апісваць падзеі гэтых гадоў, як мінуласьць. Гэты другі мэтад і выбраў Гергард Німэр для свайго артыкулу «Пасля дзесяці гадоў суіснаваньня», што быў зьмешчаны ў тыднёвіку «U. S. News and World Report».

Аўтар пераносіцца ў 1964 год, і ў ім піша свой вышэй названы артыкул, у якім рысуе палітычную сытуацыю ў гэтым годзе ды апісвае падзеі, што здарыліся ў 1954—1964 гг. Сытуацыя-ж гэтая запраўды вельмі трагічная. Для апошняй краіны, вольнай яшчэ ад камунізму, Амэрыкі, набліжаецца апошні акт: або мірным шляхам падпарадкавацца камуністычнаму ўладарству, або весьці вайну, якой яна ўжо выйграць ня можа.

А вось, у значным скароце, тыя падзеі у храналягічным парадку, што прывялі да такое сытуацыі.

У 1954—55 г. г. СССР, бачучы перавагу Захаду, згадзіўся часова на «мірнае суіснаваньне» ды на цэлы шэраг канфэрэнцыяў і перамоваў. У выніку было асягнута колькі другарадных пагадненьняў лякальнага характару, якія аднак ня прынесьлі агульнага адпружаньня. Наадварот, у Індакітаі ізноў пачаліся баі, і агульная сытуацыя на Далёкім Усходзе значна пагоршала. Скліканая канфэрэнцыя для разьзбраеньня, хоць і прынесла пэўныя надзеі застрашанаму чалавецтву, у запраўднасьці не зьмяніла сытуацыі, бо пагадненьне ня было дасягнутае. У гэтым самым часе была склікана іншая, значна важнейшая, канфэрэнцыя ў Парыжы, мэтай якой было заканчэньне халоднае вайны. На ёй, аднак, Захад ня ўмеў выкарыстаць сваіх сільных пазыцыяў і адносіны двух блёкаў асталіся й надалей напружанымі.

Што да зброеньня, дык Амэрыка ў значнай меры занядбала разбудову традыцыйных сяродкаў змаганьня, а ўсе свае сілы паклала на ўдасканаленьне такіх зброяў, як вадародная бомба, ракеты й г. д. Яна й далей дапамагала сваім саюзьнікам, узмацняючы іхныя арміі й эканоміку. Імкнулася таксама ўцягваць іншыя дзяржавы ў вабаронныя блёкі.

Прыняцьце ў 1955 годзе Камуністычнага Кітаю ў Задзіночаныя Нацыі, розьніца паглядаў адносна палітыкі на Далёкім Усходзе, а таксама адносна каляніяльных справаў, у значнай ступені зайстрылі адносіны між Амэрыкай і ейнымі саюзьнікамі, што ў сваю чаргу спрытна выкарыстоўвалі Саветы для разьбіцьця адзінства Захаду.

У 1956 годзе Японія абвесьціла сваю нэўтральнасьць. Агульная сытуацыя аднак яшчэ прадстаўлялася не безнадзейнай.

7-га лістапада 1958 году Маленкаў абвесьціў, што збройная перавага Амэрыкі закончылася, што ў выпадку атакі Саветы змогуць на працягу аднае гадзіны кінуць 10 вадародных бомбаў на кажны з галоўных прамысловых цэнтраў Захаду. І гэта быў пераломны мамэнт. Масы кінуліся ў паніку. Кіраўнікі разгубіліся, прэса падняла магутную кампанію, даводзячы, што цяпер ужо вайна сталася запраўды немагчымай, што гэта ўжо не змаганьне, а самагубства, а дзеля гэтага трэба абавязкова зьнішчыць пякельныя зброі. У сувязі з гэтым прэзыдэнцкія выбары ў 1960 годзе адбываліся пад лёзунгам агульнага разбраеньня.

У 1961 годзе адбылася ў Нью Ёрку новая канфэрэнцыя ў справе разбраеньня, на якой ужо не Саветы, але Амэрыка катэгарычна дамагалася зьнішчэньня й забароны атамнае, вадароднае й падобнае зброі. Саветы, зразумела, адкінулі гэтыя дамаганьні, матывуючы тым, што яны мусяць мець гэтую зброю для абароны Усходняга блёку. Аднак дадалі, што могуць пайсьці на такое разбраеньне з умовай, калі «фашыстоўскія» ўрады эўрапэйскіх краінаў будуць замененыя ўрадамі «дэмакратычнымі». Амэрыка не магла згадзіцца на такую развязку й канфэрэнцыя ня прывяла да нічога.

Але вось здарылася цікавая й неспадзяваная падзея. 20-га ліпеня 1961 году ў Варшаве пачаўся вялікі штрайк работнікаў, на бок якіх далучылася значная частка арміі. Віну за разрухі, якія адразу-ж пашырыліся на ўсю Польшчу, Чэхаславаччыну й Мадзяршчыну, Саветы прыпісалі амэрыканскім «ваенным падпальшчыкам». Частка амэрыканскага грамадзтва й прэса дамагаліся выступленьня з дапамогай для збунтаваных. Аднак урад чакаў у ненаважанасьці, каб зарыентавацца ў сытуацыі. Церaз два дні шматлікія савецкія дывізыі пачалі прыбываць на Захад, дзе толькі ў самым раёне Бэрліну іх згрупавалася каля 30—40. Арміі Атлянтычнага Пакту былі заалярмаваныя, аднак амэрыканскі прэзыдэнт запэўніў Саветаў, што Амэрыка ня мае ніякіх варожых намераў супраць СССР, а гэтым самым ён дапамог ім спакойна навесьці парадак у збунтаваных раёнах. Пасыўнасьць Захаду ў часе такога грознага крызысу ўнутры савецкага блёку адмоўна адбілася на далейшым ходзе падзеяў.

Савецкі ўрад, цяпер ужо куды больш самаўпэўнены, у лістападзе 1961 году прымушае Нарвэгію выступіць з Атлянтычнага Пакту й падпісаць з СССР 25-гадовы пакт аб ненападаньні. Зразумела, Нарвэгія пайшла на гэты крок толькі пад ціскам савецкага ўльтыматуму. Падобны дыпляматычны аргумант змусіў і Данію пайсьці за Нарвэгіяй.

Гэткі вылам у НАТО спараліжаваў волю змаганьня эўрапэйскіх вольных краінаў. І хоць Амэрыка збольшыла цяпер дапамогу сваім саюзьнікам, яны аднак баяліся зрабіць найменшы неасьцярожны жэст, які мог-бы не падабацца Саветам. Бэван, які зьяўляўся цяпер прэм'ерам Брытаніі, асьветчыў, што ягоная краіна ня мае да нікога варожых намераў і ў ніякія агрэсыўныя авантуры не дазволіць сябе ўцягваць.

Напружаная сытуацыя вытварылася ў Італіі, дзе ў сьнежні 1961 году Тольяці загразіў справакаваць грамадзянскую вайну, калі камуністых не дапусьціць у ўрад. Антыкамуністычныя сілы мусілі пайсьці на ўступку, і ў новастворанным урадзе, на чале якога стаў Нэні, камуністы атрымалі два месцы. У 1962 годзе падобная сытуацыя вытварылася й у Францыі.

У сувязі з такой эвалюцыяй падзеяў, Нямеччына выступае з НАТО, і пасьля перамоваў у Маскве, падпісвае з Саветамі пакт аб ненападаньні. Саветы пры гэтым атрымоўваюць гваранцыю, што бязь іхнае згоды Нямеччына пасьля аб'яднаньня не падпішае зь нікім ніякага саюзу. Адзінымі дзяржавамі ў Эўропе, якія не зьмянілі свае палітычнае лініі, асталіся Грэцыя, Турцыя й Гішпанія. Вялікабрытанія перайшла на палітыку нэўтральнасьці, а іншыя дзяржавы пазаключалі ўмовы з Саветамі.

Узмоцненая псыхалягічная акцыя Амэрыкі ўжо не магла зьмяніць сытуацыі. У ваблічы савецкае загрозы народы Заходняй Эўропы адракліся ад абароны й рабілі ўсё магчымае, каб толькі падабацца Саветам. Пагадзіўшыся з думкай, што камунізм усёроўна пераможа, некаторыя, хоць і нічога супольнага зь ім ня мелі, пачалі аднак загадзя выслугоўвацца перад камуністымі, каб гэтым забясьпечыцца на будучыню. Правыя партыі пачалі распадацца. Наагул вытварыўся настрой, які можна было-б схарактарызаваць толькі адзіным «ратуйся, хто можа!»

У Амэрыцы-ж, якая цяпер асталася сама, грамадзтва падзялілася на два лягеры. Адны дамагаліся безадкладнага распачацьця вайны, уважаючы, што за год будзе ўжо горш; іншыя-ж даводзілі, што лепш падпарадкавацца камуністым, чымся давесьці Амэрыку да зьнішчэньня. Хоць абодвы выхады былі страшныя, усё-ж іншага быць не магло.

На што канчаткова пайшлі Амэрыканцы, мы ня ведаем, бо артыкул Німэера якраз канчаецца на гэтым пэрыядзе раздарожжа.

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

# Чэрчыль ворагам № 1

Ад часу сваей нядаўнай прамовы ў Ніжняй Палаце ў справе абароннай канцэпцыі церaз адстрашваньне, аб якой мы шырака пісалі ў папярэднім нумары, у вачох камуністых Чэрчыль стаўся ўзноў ворагам нумар першы. Камуністычная прэса яго цяпер прадстаўляе, як падпальшчыка прэвэнцыйнай (паперsuccessors-джальнай) вайны.

Маскоўская «Правда» ў нумары за 4 сакавіка назвала прамову Чэрчыля «заклікам да прыгатаўленьня атамнае вайны», намагаючыся аднача́сна палохаць ангельскае грамадзянства перасьцярогай, што ў выпадку вайны Вялікабрытанія будзе аднэй з галоўных мэтаў для вадародных бомбаў з прычыны амэрыканскіх базаў, паложаных на ейнай тэрыторыі. «Брытанскія ўрадавыя колы — піша «Правда» падчырквае, што Чэрчыль інтарэсы свайго краю, ператвараючы брытанскую тэрыторыю ў базу для амэрыканскіх атамных бамбардавальнікаў». «Правда» падчырквае, што Черчыль зьяўляецца чалавекам «зь вялікім дасьветчаньнем у выступаньні з прамовамі, якія маюць на мэце павялічаньне міжнароднага напружаньня і выкліканьне варожасьці ў дачыненьні да Саветаў».

«Известия» цьвердзяць, што Чэрчыль выступіў у ролі «прапагатара перагонкі атамных і вадародных зброеньняў» ды «аказаўся ўзноў адным з найбольш заядлых прадстаўнікоў імпэрыялізму, які ненавідзіць усё, што новае й прагрэсыўнае». Не пакінуў ён сумлеву, што «атамная вайна была-бы прыгатаваная супраць Савецкага Саюзу і што амэрыканскія атамныя базы на брытанскіх астравох, а такжа рэмілітарызацыя Нямеччыны зьяўляюцца зьвязанымі з плянамі гэтае вайны».

Ангельскія камуністыя, якія яшчэ нядаўна выхвалялі Чэрчыля за ягонае дамаганьне гутарак на найвышэйшым шчэблі, арганізуюць цяпер вялікую кампанію супраць брытанскай вадароднай бомбы. Палітбюро брытанскай камуністычнай партыі абвесьціла маніфэст, у якім гаворыцца, што пастанова ўраду аб прадукаваньні і ўжыцьці вадароднай бомбы ствярае для Вялікабрытаніі сьмяротную небясьпеку. «У спалучэньні з палітыкай узбраеньня Нямеччыны гэта зьяўляецца праграмай разьдзьмуханьня новай сусьветнай атамнай і вадароднай вайны» — гаворыцца ў маніфэсьце. Палітбюро асьветчыла, што мова Чэрчыля перавысіла навет «заклікаючую да вайны» ягоную прамову, сказаную ў 1946 годзе ў Фультоне. Аргумэнты Чэрчыля складаюцца на «найбольш праступную палітыку, якую можа весьці які-небудзь дзяржаўны муж».

Камуністычная прэса нападае аднача́сна і на правае крыло ляйбарыстаўскай партыі, якое падтрымала пастанову прадукаваньня вадароднай бомбы. Адзіным прадметам пахвалаў камуністых астаецца толькі Бэван.

# Вывазы Беларусаў на цаліну

У першай палавіне мінулага году газэта «Советская Белоруссия» часта зьмяшчала аб'явы кіраўніцтва перасяленьня Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. У аб'явах заклікаліся Беларусы да перасяленьня ў Карэла-Фінскую рэспубліку на лясныя працы. Зьмяшчаліся аб'явы з запросінамі перасяліцца таксама ў калгасы Краснаярскага краю, у Кемераўскую, Акмалінскую вобласьці і іншыя далёкія мясцовасьці Сібіру й Казахстану. Аднак гэтыя заклікі, відаць, не далі патрэбных вынікаў. Беларусы ўхіляліся ад перасяленьня і не сьпяшаліся шукаць шчасьця ў лясох Карэла-Фінскай рэспублікі і халодных стэпах Сібіру й Казахстану.

Вось-жа 7 ліпеня 1954 году начальнік кіраўніцтва перасяленьня Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР Сямёнаў зьмясьціў у «Советской Белоруссии» вялікі артыкул. Пахваліўшы савецкі патрыятызм дабраахвотнікаў, якія на заклік камуністычнай партыі ўжо выехалі на асваеньне цаліны і залежных земляў, Сямёнаў перайшоў да прапаганды, каб Беларусы перасяляліся ў Сібір і Казахстан.

Каб больш зацікавіць беларускіх калгасьнікаў, Сямёнаў у артыкуле зьмясьціў два выняткі зь лістоў калгасьнікаў Кемераўскай вобласьці, якія быццам-бы яны яму прыслалі. У вадным лісьце сібіракі калгасу імя Хрушчова праз Сямёнава зварочваліся да работнікаў, служачых і калгасьнікаў Беларусі з паведамленьнем, што за іх калгасам замацована 19 тысяч гэктараў зямлі. Галоўныя працы ў калгасе выконваюцца машынамі, але ўсё такі ў працоўнай сіле калгас адчувае вялікую патрэбу. Сібірскія калгасьнікі абяцаюць Беларусам, калі яны прыедуць у калгас, пабудаваць хаты з надворнымі будынкамі, адвесьці прысядзібныя вучасткі і навет дапамагчы набыць карову або цялё.

У артыкуле Сямёнаў зьмясьціў таксама прывітаньне Беларусаў зь Нясьвіскага раёну Менскай вобласьці, якіх у 1954 годзе ўжо вывезьлі ў калгас імя Леніна Кемераўскай вобласьці. Нясьвіжанцы, вельмі стрымана пахваліўшы ўрадлівасьць сібірскіх земляў, скардзяцца таксама на недахоп працоўных рук у калгасе, куды іх закінуў нешчасьлівы лёс. Свой ліст яны канчаюць так: «Запрашаем землякоў прыехаць да нас, каб разам працаваць на сібірскіх прасторах».

Ад сябе Сямёнаў дадае, што перасяленцаў савецкая дзяржава будзе дармова перавозіць да месца новага жыцьця. Перасяленцам будуць выдавацца пазычкі на набыцьцё жывёлы і будаўніцтва. Навет калгасы забавязаны выдаць на сям'ю паўтара цэнтнара збожжа або мукі да новага ўраджаю, якая павінна быць зьвернута натураю калгасу.

Аднак ні сібіракі калгасьнікі, ні суродзічы-Беларусы, якія ўжо апынуліся ў Сібіры, ні сам Сямёнаў у артыкуле нічога не паведаміў, як на новых землях задавальняюцца мінімальныя патрэбы людзей. Ці можа калгасьнік за свае працадні набыць сабе і сям'і абутак, вопратку і іншыя неабходныя рэчы. Нарэшце, чаму ў такіх багатых сібірскіх калгасах мала людзей, што прыходзіцца шукаць працоўную сілу ў далёкай Беларусі, якая разбурана вайною. Сямёнаў між іншым у артыкуле адзначыў, што ўжо прышоў час, калі зь Беларусі перасяленьне будзе праводзіцца плянава ў шматзямельныя калгасы, якія асвойваюць цаліну і залежныя землі.

Яшчэ больш выразна, чым Сямёнаў, выказаўся аб перасяленьні начальнік перасяленьня СССР Чарамушкін. «Правда» за 3 верасьня мінулага году зьмясьціла яго артыкул. Чарамушкін без асаблівых развважаньняў адзначыў, што зьяўляецца безакладная неабходнасьць папаўненьня рабочай сілай раёнаў асваеньня цаліны. Больш таго, Чарамушкін знайшоў, што ў заходніх частках СССР, куды аднесена і Беларусь, ёсьць шмат лішняй працоўнай сілы. Вось з гэтых раёнаў зь лішкамі працоўнай сілы і будзе праводзіцца перасяленьне на цаліну ў шырокіх памерах. Аб перасяленьні, пісаў Чарамушкін, ужо распрацаваны падрабязны плян.

Не Чарамушкін і Сямёнаў ўстанаўліваюць тэрыторыі, у якіх «шмат лішніх працоўных рук». Беларусь была арэнаю двух апошніх войнаў. Дзесяткі тысяч прымусова выселеных Беларусаў на ўсход у першую сусьветную вайну ня ўбачылі больш сваей бацькаўшчыны. Сотні тысячаў загінулі ў часы розных чыстак ад так званага ненадзейнага ў палітычных адносінах элемэнту з прымежнай Беларускай рэспублікі. Зусім нядаўна, 10 лютага гэтага году старшыня савету міністраў Беларускай ССР К. Мазураў, выступаючы па дакладу Молатава аб міжнародным становішчы, сказаў:

«Агульная сума шкоды, зробленай Беларускай ССР нямецка-фашыстаўскімі захопнікамі ў вайне 1941—1945 гадоў, складае 75 мільёнаў рублёў. Гітлераўцы зьнішчылі на Беларусі каля паўтара мільёнаў чалавек і больш 300 тысячаў чалавек вывезьлі на фашыстоўскую катаргу. Яны разбурылі 209 гарадоў і гарадзкіх пасёлкаў, 9 200 сёлаў і вёсак, зьнішчылі прамысловасьць, прадпрыемствы, разбурылі калгасы, саўгасы, абрабавалі і давялі да жабрацтва насельніцтва рэспублікі». («Известия» ад 10 лютага 1955 году). Нажаль, Мазураў не падаў лічбаў аб загінуўшых Беларусах у шэрагах арміі, зьнішчаных і высланых ворганамі камуністычнай дыктатуры за недастатковае праяўленьне савецкага патрыятызму ў часы нямецкай акупацыі.

Аб вялізарных стратах беларускага насельніцтва сьветчаць сучасныя прапагандовыя фотаздымкі ў газэтах і часапісах. Вельмі часта на іх можна бачыць, што толькі жанчыны падлёткі ды калекі-інваліды засталіся ў калгасах. Жанчыны працуюць на трактарах, шнэйках, закладваюць сілас, грузяць на машыны збожжа, бульбу, малако і здаюць прадукты на загатоўчыя пункты. На іх ляжыць праца ў калгасных фэрмах.

Такое становішча і ў гарадох на прадпрыемствах. Жанчыны працуюць ня толькі на прадпрыемствах лёгкай прамысловасьці, але і цяжкай, на будаўніцтве. На апошняй балоне беларускіх савецкіх газэтаў можна штодзённа бачыць аб'явы аб наборы рабочай сілы. Работнікі патрэбныя трактарнаму заводу, мясакамбінату, на будаўніцтва, у раёнах на вінакурных і крахмальных заводах, саўгасам, МТС. Таму хлусьнёю і зьдзекам ёсьць цьверджаньне аб лішках працоўнай сілы на Беларусі. Людзей, патрабуючых працы, няма.

Аднак «Масква сьлязам ня верыць». У мінулым годзе на цаліну адпраўлена каля 80 тысячаў Беларусаў. У бягучым годзе колькасьць вывезеных Беларусаў

(Заканчэньне на 8-й балоне)

# На шляху да самагубства

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

Ясна, што ў прароцтвы сяньня мала хто верыць. Але тым ня менш, калі мы перагледзім падзеі апошняга дзесяцігодзьдзя, усе вынікі халоднае вайны й г. зв. «мірнага суіснаваньня» двух блёкаў, савецкую палітычную тактыку й ейныя ўдачы ў змаганьні з заходнім сьветам, дык у гэтым сьвятле, будучыня сьвету ў наступным дзесяцігодзьдзі прадстаўлена аўтарам вельмі рэальна й лягічна. Зразумела, гэткая эвалюцыя магчымая толькі пры ўмове, калі заходні сьвет ня зьменіць свае палітыкі, г. зн. калі канчаткова пойдзе шляхам «суіснаваньня», што зрэштай Німэер і меў на ўвазе, гаворачы аб гэтым ужо ў загалоўку свайго артыкулу.

Трэба сказаць, што дзесяцігадовая практыка Захаду, а прынамсі Амэрыканцаў, мусіла-б ужо дастаткова пераканаць іх, што шлях «мірнага суіснаваньня» з камунізмам зьяўляецца нічым іншым, як шляхам да самагубства.

**А. Г.**

# Новыя зьмены у Крэмлі

У тры тыдні пасьля дымісіі Маленкава із становішча старшыні рады міністраў Савецкага Саюзу й назначэньня яго на становішча міністра электрастанцыяў і заступніка прэм'ера, Булганін правёў новыя вялікія зьмены ў складзе савецкага ўраду. У выніку гэтых зьменаў рада міністраў мае цяпер, апрача прэм'ера, пяць першых заступнікаў прэм'ера і восем звычайных заступнікаў, зь якіх чатырох нованазначаных. Такім чынам урад СССР складаецца цяпер з прэм'ера (старшыні рады міністраў), пяцёх заступнікаў прэм'ера і васьмёх звычайных заступнікаў ды 57 міністэрстваў (пры Сталіну іх было 51, а пры Маленкаву — 25). Запраўдны кабінэт твораць 13 заступнікаў прэм'ера на чале з Булганінам, пры чым фактычная ўлада спачывае ў руках шасьцёркі: **Н. Булганіна** — прэм'ера, **В. Молатава** — міністра замежных справаў, **Л. Кагановіча** — адказнага за атамную энэргію, і нованазначаных Булганінам ягоных першых заступнікаў — **А. Мікаяна** (нядаўны міністар гандлю), **М. Сабурава** — старшыня дзяржпляну і **М. Пярвухіна,** якому цяпер падлягае электра- і машынабудаўніцтва.

Характэрна, што Маленкаў не атрымаў становішча першага віцэ-прэм'ера. Пашыраюцца чуткі, што ён праўдападобна ўжо ня ёсьць сябрам палітбюра. У выніку цяперашняй рэканструкцыі габінэту ён атрымаў новага шэфа — Пярвухіна, які разам з Сабуравам і Мікаянам патрапілі ў вельмі хуткім часе пераставіцца на бок Хрушчова, Булганіна й Кагановіча. Да нованазначаных чатырох звычайных заступнікаў старшыні рады міністраў належаць — **А. Завіньягін, В. Кучарэнка, В. Лабанаў і М. Хрунічаў.** Усе чатыры нованазначаныя віцэ-прэм'еры зьяўляюцца паважнымі знатакамі цяжкай прамысловасьці й сельськае гаспадаркі. Сярод іх Лабанаў, былы заступнік міністра сельскае гаспадаркі, свайго часу крытыкаваны Маленкавам, зьяўляецца правай рукой Хрушчова ў галіне аграрнае палітыкі й цешыцца ягоным асабістым даверам. Таксама заслугоўвае на ўвагу намінацыя Хрунічава, генэрал-лейтэнанта тэхнічных войскаў, былага камісара авіяцыйнай індустрыі ды міністра гэтага рэсорту, і генэрал-палкоўніка Завіньягіна, які таксама займаў важныя становішчы ў ваеннай прамысловасьці яшчэ ад 1922 году.

2 сакавіка адбыліся далейшыя зьмены ў савецкім урадзе. За «недастатковую працу» былі звольненыя міністар вугальнай прамысловасьці **Засадзька** і міністар саўгасаў **Казлоў.** На іхняе месца былі назначаны **А. Задземідка** і **А. Бэнэдыктаў.**

Апошняя рэарганізацыя ўраду Савецкага Саюзу паказвае на далейшыя сьпешныя намаганьні ўзмацняць мілітарны патэнцыял краіны ды забясьпечваць індустрыяльныя й ваенныя патрэбы Кітаю шляхам узмацненьня цяжкай індустрыі і павышэньня сельскагаспадарскай прадукцыі за кошт далейшага прыгнечаньня й эксплятацыі насельніцтва.

# Беларускае пытаньне ў Польшчы

Пасьля другое сусьветнае вайны, воляй злачыннага савецкага дыктатара, вялікая частка беларускае этнаграфічнае тэрыторыі апынулася ў межах польскае сатэлітнае рэспублікі. Колькасьць беларускага карэннага насельніцтва ў Польшчы павялічылася да гэтага дзесяткамі тысяч уцекачоў з БССР, якія ўцёкамі ў Польшчу прабавалі ратавацца ад жорсткасьцяў савецкага рэжыму. У выніку ўсяго Польшчы апынулася вялікая беларуская «мнейшосьць народова» із сваімі праявамі арганізацыйнага й нацыянальна-культурнага жыцьця.

На гэтую тэму хадзіла шмат чутак ды вестак пра сотню беларускіх пачатковых школ на Беласточчыне, пра беларускія гімназіі ў Польшчы ды пра згуртаваньне беларускіх студэнтаў у Варшаве.

Цяпер аднак весткі пра існаваньне й сілу «беларускага пытаньня» ў Польшчы атрымалі аўтарытэтнае афіцыяльнае пацьверджаньне. Як паведамляе беларуска-савецкі часапіс «Полымя» (№ 2, 1955), у Польшчы вядзецца навет беларуская навукова-дасьледная праца. У «Полымі» мы, між іншага, чытаем:

«Шмат увагі вывучэньню ўсходнеславянскіх моваў надаецца польскімі вучонымі-моваведамі. Значная ўвага зьвяртаецца на вывучэньне беларускае мовы.

«У бліжэйшым часе з друку выйдзе праца вядомага дасьледвальніка быту й мовы Беларусаў М. Федароўскага. Пры моваведным камітэце Акадэміі навук Польшчы цікавая праца напісана Г. Сафарэвічам, у якой аўтар закранае праблемы ўплыву беларускае мовы на польскую. Развіцьцю беларускае мовы значная ўвага надаецца ў выдадзеных працах Т. Лер-Сплавінскага і В. Курашкевіча.

«У Польшчы выходзіць з друку «Граматыка беларускае мовы» Т. Ломцева. Пераклад кнігі зроблены Г. Турскай.

«На тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва праводзіцца збор дыялектычных матар'ялаў.

«Вывучэньню беларускае мовы адведзена значнае месца ў праграме падрыхтоўкі спэцыялістых славянскае філялёгіі. У Варшаўскім унівэрсытэце із сучаснае беларускае мовы чытаецца курс лекцыяў і праводзіцца практычныя заняткі».

Як бачым, беларуская праблема ў Польшчы даволі шырокая, інтэнсыўная і актуальная. Вывучаньне беларускае праблематыкі, выдавецкая ды іншая дзейнасьць сьветчаць ня столькі аб польскіх сымпатыях да Беларусаў, колькі аб саміх Беларусах, іхнай немалой колькасьці, ды ўдзельнай вазе ў складзе «рэспублікі людовэй». Сьветчыць гэта й аб тым, што частка беларускіх земляў (Беласточчына) была жыўцом адарвана бальшавікамі ад рэшты этнаграфічнае тэрыторыі, акупаванае цяпер Масквой, ды што да яе яна павінна будзе аднаго дня вярнуцца, як вольная частка да вольнае цэласьці.

**А. Б.**

**ЮРКА ВІЦЬБІЧ**

# Плыве з-пад Сьвятое гары Неман

(Працяг)

У самым цэнтры Вокаўскага Лесу знаходзіцца горад Белы. Прыпушчэньне, што ягоны назоў адбівае наш сучасны нацыянальны назоў, ня вытрымлівае крытыкі. Упяршыню ў гісторыі горад прыгадваецца, як Белы яшчэ за часоў Альгерда, гэта значыцца тады, калі іншыя народы нас і мы самыя сябе менавалі вылучна Ліцьвінамі. Магчыма, што Белы набыў сваё імя ад рэчкі Белай, якая ўцякае ў ім у раку Вобшу, прыток Мяжы. Паводля паданьня, горад спачатку хацелі закласьці на месцы цяперашняга сяла Вярхоўя, але паводка змыла зь берагоў усё падрыхтаванае для пабудовы і там, дзе яна гэтае падрыхтаванае зноў выкінула на бераг, узьнікнуў сучасны горад. Можа да перасяленьня спрычынілася не паводка, а тое-ж самае ўцякацтва жыхароў, як і ў Дзьвінску. Сяло Вярхоўе вядомае з сваіх старадаўніх капальняў вапны, якая пазьней цалкам ішла адсюль на пабудову смаленскае сьцяны. Таму побач з паходжаньнем назову ад рэчкі Белае, можна таксама прыпусьціць, што, уцякаючы ад цяжкае працы ў капальнях, вярхоўцы афарбавалі ў колер вапны і назоў новага гораду. Ува ўсякім разе ці ад рэчкі ці ад вапны паходзіць назоў гораду, але спробы Івана Грознага перайменаваць яго ў Багародзіцын, як і пазьнейшае зьначаньне ў Бельскую Перапраўу, ня мелі аніякага посьпеху. Белы застаўся Белым.

На поўнач ад Вокаўскага Лесу на самае этнаграфічнае мяжы Беларусі ляжыць горад Таропец. Ён цікавы тым, што ўсе рэчкі вакол яго цякуць на поўнач да ракі Ловаці, але затое рака Таропа, ад якое паходзіць ягоны назоў, выгінаючыся паміж вытокамі гэтых рэчак, плыве адна на поўдзень, да Беларусі. Трапляючы па дарозе ў вялікія вазёры, Таропа захоўвае каля іхніх правых берагоў і сваю плынь і адменны колер свае вады. Нарэшце яна далучаецца да Дзьвіны, крыху ніжэй за ейных грымотных Веражунскіх парогаў, дзе парослыя лесам скалы на 60 сажняў узвышаюцца над Дзьвіной. Гэты рух і напрамак Таропы набываюць сымбалічнае значаньне, калі прыгадаць, што ў Таропецкай Уваскрасенскай царкве перахоўваўся Цудатворны абраз Эфэскае Божае Маці. Паводля паданьня ён напісаны сьвятым эвангелістым Лукой, а паводля гістарычных дадзеных візантыйскі імпэратар Мануіл Комнэн і канстантынопальскі патрыярх Лука Хрызаверг падаравалі яго прападобнай Еўфрасіньні-Прадславе для ейнае царквы Сьвятога Спаса. Дарма што абраз у 1239 г., як багаславеньне віцебскага князя Брачыслава Расьціславіча — апошняга «Ізяславіча» — на шлюб свае дачкі з князем Аляксандрам Неўскім, трапіў у Таропец. Дарма, што зь цягам часу ён стаўся вядомы, як Карсунскі. Мімаволі здаецца, што знарок пацякла родная Таропа да Дзьвіны, каб разам зь ёю трапіць да Полацку і перадаць яму багаславеньне ягонае сьвятыні.

Ёсьць на Беларусі ціхія маленькія мястэчкі, што па свайму веку значна старэйшыя за шумныя вялікія гарады. Некаторыя з гэтых гарадоў наагул ня існавалі ў той час, калі яны, зьяўляючыся вялікімі гарадамі, рабілі гісторыю. Потым народ праклаў новыя гістарычныя шляхі, і гэтыя колішнія гарады, апынуўшыся паза імі, паступова заняпалі, ператварыўшыся ў мястэчкі. Да ліку гэтых мястэчкаў належыць старадаўны Усьвят, што паўстаў на тым месцы шляху «з Варагаў у Грэкі», дзе з возера Усьвят цячэ на поўдзень да Дзьвіны рака Усьвяча, а зусім паблізу ад возера цячэ на поўнач рака Ловаць. Пасьля гэтага дзівіць, што Усьвят упяршыню прыгадваецца ў гісторыі на 46 год раней за Менск, на 121 год раней за Гомель, на 309 год раней за Беласток. Прыгадваецца ў сувязі з унукам Рагнеды полацкім князем Брачыславам, які пасьля заўзятага змаганьня зь Кіевам займеў два гарады «Всвяч і Вітбеск». Ня дзівіць таксама, што ў 1245 г. тут па дарозе зь Віцебску ў Ноўгарад затрымаўся князь Аляксандр Неўскі, зяць віцебскага князя Брачыслава, як ня дзівіць і тое, што два гады тут жыў Альгерд, жанаты на дачцы апошняга віцебскага князя Яраслава — Марыі. Затое дзівіць, што, трапіўшы ў склад расейскае імпэрыі, Усьвят паслядоўна належыць кн. Вяземскаму, гр. Зубаву, Энгельгардту, кн. Юсупаву, кн. Пацёмкіну, гр. Рыбап'еру, Дурасаву, Ідэну, Бальфуру, Аршыдстыаду, гр. Шувалаву, Радзянку. Што агульнага паміж Альгердам Вялікім і штальмэйстрам двара ягонае імпэратарскае вялікасьці Радзянкам? Аднак ніхто ня ў стане забіць беларушчыны нашых гарадоў і мястэчак. Характэрна, што якраз зь сям'і ўсьвяцкага кажамякі паходзіць А. Сапуноў, які дасьледваў Альгердаў Шлях і аб якім пісаў выдатны сын нашага народу П. Крэчэўскі: «Пачэсныя імёны мясцовых гісторыкаў і этнаграфаў, што будзілі думку аб Беларусі — Сапунова, Стукаліча, Нікіфароўскага, Даўгалы, Раманава ды іншых яскрава гавораць аб тым захапленьні, якое выклікала беларуская нацыя, як старэйшая й найбольш чыстая галіна славянства ў навуковых колах».

Лёс Усьвята падзяліў калішні вялікі горад і моцная крэпасьць Езярышча, што атрымала свой назоў ад аднайменнага возера. Цяпер гэта маленькае мястэчка ў паўночнай Віцебшчыне, у якім ад мінулага засталіся рэшткі вялікага гарадзішча на высьпе возера, ды паданьне аб прыгожай дзяўчыне, што часам зьяўляецца тут з двума вялізнымі сабакамі, але разам з тым ня робіць людзям аніякага ліха. Наадварот — закахаўшыся ў тутэйшага рыбака Якуша Вяхотку, яна паказала яму на высьпе вялікі скарб. У 60 кілямэтрах на паўночны захад ад мястэчка Езярышча знаходзіцца вялікае сяло Езярышча, што прылягае да іншага таксама аднайменнага возера.

Прастору паміж двума Езярышчамі калісьці скрозь насялялі панцырныя баяры, якія ў сваіх правох і абавязках нагадвалі казацтва. Паводля прывілеяў, атрыманых за часаў Вітаўта, пацьверджаных потым Сьцяпанам Баторым, яны зьяўляліся вольнымі ад прыгону, мелі ладне собскае зямлі, а затое ў часе вайны зьбіраліся да свае харугві на сваіх конях, із сваёй зброяй і ў сваіх панцырах. Расейскі царызм за некалькімі дзесяткамі панцырных баяраў прызнаў казацкія правы, але затое 11 тысячаў іх залічыў у дварцовыя прыгоньнікі. Некалькі разоў, асабліва за цара Мікалая Першага тут выбухалі паўстаньні супраць ураду, пасьля якога шмат былых панцырнікаў атрымалі, замест згубленых панцыраў, кайданы сібірскіх катаржнікаў. Расейскі бальшавізм абваліўся на патомкаў панцырных баяраў. І цяпер бадай ня сустракаецца на Віцебшчыне адно з найбольш пашыраных у ёй раней прозьвішчаў — Панцырны.

Калі Дзьвінск атрымаў свой назоў ад самае Дзьвіны, дык значная колькасьць іншых гарадоў і мястэчак на ёй набылі сваё імя ад ейных прытокаў. Гэтак зьверху ўніз па плыні першым сустракаецца мястэчка Вула. На рагу дзьвюх рэкаў Дзьвіны і Вулы захаваліся сьляды Баторавага шанцу і стварэньне яго якраз тут ня выпадковае. Яшчэ за даўнія часы рака Вула і пераволокі злучалі Дзьвіну з прытокам Дняпра ракой Бярозай, а ў 1797 г., паводля праекту яшчэ караля Жыгімонта III, на зьмену пераволокам прышла Бярэзінская сыстэма каналаў.

Паміж Полацкам і Дрысай уцякае ў Дзьвіну рака Дзісна; абедзьве маюць супрацьлеглы бег — першая на захад, другая на ўсход. І наш народ не абмінуў сваеасаблівага бегу Дзісны. Калісьці ад дзьвінскіх плытагонаў давялося мне пачуць паданьне пра матку Дзьвіну і ейных дачок. А яна іх шмат мае і вялікіх і дробных. Нарадзіўшыся сама за даўнія часы ў Вокаўскім Лесе, Дзьвіна ў сваёй пуцявіне да мора паступова падхапіла Таропу і Мяжу, Усьвячу і Касплю, Лучосу і Вобаль, Вулу і Палату. Яна сьпяшалася да мора, але ўвесь час ейны неўтрапёны рух затрымлівалі парогі. Чакаючы Дзьвіну, зьбірала Дзісна ў сваім возеры ваду. Нарэшце паназьбірала яе гэтульскі, што, здаецца, вось-вось сама вада цераз край пацячэ да ракі Сьвенты, а зь ёю да Вяльлі. А Сьвента-ж тут зусім паблізу і ў ціхае надвор'е навет чуваць, як шуміць яна, выгінаю-

# Плятформа НОРД-у у нацыянальным пытаньні

Заснаваная ведамым расейскім дэмакратам праф. Алексінскім і ягонымі аднадумнікамі «Нацыянальная Арганізацыя Расейскіх Дэмакратаў» (НОРД) абвесьціла ў сьнежані 1954 году аснаўныя прынцыпы сваей плятформы (гл. Освобождение» № 18 за сьнежань 1954 г.), у якой найбольш месца прысьвечана справе разьвязаньня нацыянальнае праблемы народаў сяньняшняга Савецкага Саюзу. У сувязі з тым, што НОРД зьяўляецца сяньня, на жаль, адзінай расейскай палітычнай арганізацыяй, якая разьвязвае нацыянальнае пытаньне паняволеных бальшавізмам народаў ува ўсей ягонай шырыні і ў поўнай згодзе з дэмакратычным правам на вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць усіх народаў, ніжэй перадрукоўваем адпаведныя пункты плятформы НОРД-у для абзнаямленьня зь імі нашых чытачоў:

**«Нацыянальнае пытаньне войстра стаяла яшчэ ў самадзяржаўнай расейскай імпэрыі, якая, як і сяньняшні СССР, была «турмой народаў».**

**Пасьля ўпадку самадзяржаўя ў пачатку 1917 году і, у васаблівасьці, пасьля бальшавіцкага перавароту, ярка выявілі скрытыя нацыянальныя рухі ў б. імпэрыі народы, якія прабавалі ажыцьцявіць а некаторыя й змаглі ажыцьцявіць устанаўленьне іхнай нацыянальнай свабоды й самастойнасьці шляхам абвешчаньня незалежных дэмакратычных рэспублік. Але савецкая дыктатура, нясумесная із свабодаю асобы, ні із свабодай працы, ні з свабодай народаў, зьнішчыла ўсе гэтыя нацыянальна-дзяржаўныя творы грубой сілай, а потым, апіраючыся на свой саюз зь Гітлерам, задушыла Польшчу й Балтыйскія дзяржавы, анэктавала Бесарабію, часьць Фінляндыі і г.д.**

**Пасьля другой сусьветнай вайны, савецкая рэакцыйная дыктатура даканала праступку «гэносыду» (народаўбіўства) над трымя аўтаномнымі рэспублікамі Паўночнага Каўказу, Нямецкай Аўтаномнай Рэспублікай Паволжа і Татарскай Рэспублікай Крыму. Выкарыстаўшы хвальшывы кірунак палітыкі заходніх саюзьнікаў, яна пашырыла сваё антыдэмакратычнае і антынацыянальнае панаваньне над радам краёў вонках СССР (Польшчу, Чэхаславаччыну, Мадзяршчыну, Румынію, Баўгарыю і Ўсходнюю Нямеччыну), пазбавіўшы іх фактычна ўсякай палітычнай незалежнасьці і зрабіўшы іхныя нацыянальныя збройныя сілы дапаможнымі аддзеламі савецкай арміі, у выніку чаго загроза савецкага мілітарызму й імпэрыялізму сталася першай і галоўнай небясьпекай для свабоды й дэмакрацыі ўсей Заходняй Эўропы.**

**Радыкальнае дэмакратычнае разьвязаньне праблемы вызваленьня ўсіх народаў, прыгнечаных савецкай дыктатурай, і разьвязаньне нацыянальнага пытаньня ў СССР цесна зьвязаныя із змаганьнем за ліквідацыю гэтай дыктатуры. У гэтым змаганьні маюць галоўную важнасьць нацыянальныя рухі ўнутры Савецкага Саюзу, якія прадстаўляюць сабою вялізарную ўзрыўную сілу, загражаючую самому існаваньню савецкага рэжыму.**

**Для прысьпяшэньня ўпадку камуністычнай дыктатуры ў СССР неабходныя ўзгадненьні дзейнасьці людзей усіх нацыянальнасьцяў, засяляючых савецкую «турму народаў», і такія-ж дзейнасьці расейскай і нерасейскай эміграцыі.**

**Пераважаючая бальшыня нерасейскай эміграцыі абазначана і бясспрэчна бароніць пазыцыю абароны права сваіх народаў на поўнае нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэньне, г. зн. на стварэньне самастойных дзяржаўных адзінак. Гэтае бясспрэчнае для кажнага шчырага дэмакрата права вызнавалася праграмамі расейскіх дэмакратычных партыяў яшчэ да рэвалюцыі (гл. 9-ты пункт праграмы расейскай Сацыял-Дэмакратычнай Работніцкай Партыі).**

**Толькі вызнаньне гэтага прыроднага і бясспрэчнага права намі, Расейцамі, можа даць аснову для задзіночаньня нашай антысавецкай палітычнай работы зь дзейнасьцю нерасейскіх сілаў эміграцыі із СССР.**

**На жаль, некаторыя зь дзеячоў расейскай эміграцыі (яны не адважваюцца навет насіць імя «русских» і трусьліва называюць сябе «российскими») стаяць на старой антыдэмакратычнай і імпэрыялістычнай пазыцыі, стараючыся перашкодзіць ня толькі пагадненьню між расейскай і нерасейскай эміграцыямі, але таксама й нацыянальнаму самавызначэньню самых Расейцаў, утрымліваючы іх у распыленым і нацыянальна-несьвядомым становішчы...»**

Пасьля гэтага сьцьверджаньня, плятформа НОРД-у высоўвае наступны галоўны прынцып сваей нацыянальнай праграмы:

**«Мірнае суіснаваньне між расейскай нацыяй і нацыямі нерасейскімі б. расейскай імпэрыі на аснове ўзаемнага вызнаньня нацыянальнага самавызначэньня і дзяржаўнай незалежнасьці народаў.**

**Мы сябры Нацыянальнай Арганізацыі Расейскіх Дэмакратаў уяўляем гэтае будучае суіснаваньне ў форме Свабоднага Саюзу Незалежных Дзяржаваў Усходняй Эўропы».**

Гэтак выглядае палітычная праграма НОРД-у ў нацыянальным пытаньні паняволеных бальшавізмам народаў. Лідэр НОРД-у праф. Г. А. Алексінскі у № 2 «Освобождения» за люты 1955 году, у цыклю артыкулаў «Пісьмы к сваім і чужым», зьмясьціў кароткі, але зьмястоўны артыкул «Нашая формула „суіснаваньня" расейскага і нерасейскіх народаў», у якім даў глыбокую інтэрпрэтацыю прыведзеных пунктаў Плятформы НОРД-у і раскрыў усю рэакцыйнасьць і антыдэмакратычнасьць адзінанедзялімскай канцэпцыі бальшыні расейскае эміграцыі. З гледзішча на важнасьць і цікавасьць гэтага артыкулу, прыводзім яго ніжэй з малым скарачэньнем:

«У васнаўных прынцыпах нашай плятформы сказана, што мы, „нордаўцы", уяўляем гэтае будучае суіснаваньне ў форме Свабоднага Саюзу Незалежных Дзяржаваў Усходняй Эўропы.

Гэтая формула — новая для расейскай палітычнай думкі — высунутая намі ня прыпадкова, а ў выніку доўгіх абсэрвацыяў і меркаваньняў аб палітычным жыцьці расейскай эміграцыі і яе ўзаемадачыненьнях з эміграцыяй нерасейскай. Гэтыя ўзаемадачыненьні, роўна як і будучае „суіснаваньне" нашых народаў, зьвязанае з разьвязаньнем нацыянальнага пытаньня. Але, нажаль, расейская эміграцыя, у васобах яе гэтак званых „российских" дзеячоў, ня здолела да гэтага часу знайсьці ніякага разьвязаньня гэтай праблемы, якое адказвала-б нашай эпосе і ўзмоцніла-б пазыцыю тых, хто хоча весьці рэальнае, а ня фіктыўнае змаганьне з бальшавіцкім ярмом.

У існасьці, толькі скрайныя правыя манархістыя занялі ў гэтым пытаньні, калі не самую разумную, дык, у кажным выпадку, самую шчырую пазыцыю. Прабываючы духова ў рамантычным міражы старой „імпэрыі" і не разумеючы, што самадзяржаўная ўлада ніколі ня вернецца, бо шчэзла ейная сацыяльная база і апора, — арыстакрацыя, дваранства і буйная буржуазія, якая панявольніцку прытарноўвалася да гэтай улады, — манархістыя наяўна мрояць аб павароце на трон „расейскага белага цара", які-б узноў задзіночыў вакол сябе „ўсе народы, плямёны й мовы".

Аднаўленьне імпэратарскай улады было-б магчымым толькі ў яе банапартаўскай форме. Але пераможны ўнутры краіны банапартызм магчымы толькі ў выніку пераможнай вонкавай вайны. У канцы другой сусьветнай вайны былі людзі, якія думалі, што савецкія маршалы — Жукаў, Конеў і іншыя — выкарыстаюць свой ваенны прэсьціж пераможных воінаў, каб сьцінуць сталінскі рэжым і перадаць уладу каму-небудзь із свайго ваеннага асяродзьдзя. Але на гэта ў іх „пораху не хапіла" і дамарослыя нашыя „банапарты" аказаліся пры бліжэйшым іх разглядзе простымі чыноўнікамі, добра выдрасаванымі і дастаткова запалоханымі савецкай уладай.

Што датыцыцца неманархістычных, а так называных „дэмакратычных" дзеячоў „российской" эміграцыі, дык, пазбаўленыя манархічных ілюзіяў, яны ў той-жа час аказаліся пазбаўленымі і здольнасьці знайсьці якое-небудзь рэальнае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня і пытаньня сваіх узаемадачыненьняў зь кіраўнікамі нерасейскай эміграцыі, якія ўсе, амаль пагалоўна, стаяць на пазыцыі „права на самавызначэньне аж да аддзяленьня".

Гэтую сваю няздольнасьць (ці нехаценьне) знайсьці дэмакратычнае разьвязаньне праблемы яны стараліся схаваць — ад вачэй чужынцаў ды, хіба, і ад сваіх собскіх, — за шырму „непрадрашэнства". Але шырма гэтая аказалася вельмі прасьветнай і дзюравай і з за яе выглядалі няпрыветлівыя твары людзей, якія хацелі злучыць свой рэакцыйны „расейскі" імпэрыялізм із сваей квазідэмакратычнай фразэалёгіяй.

Але ў канцы „непрадрашэнствам" не ўдалося абмануць нікога. Нашыя амэрыканскія прыяцелі, якія спачатку чуць-чуць не папаліся на гэтую хітрую вудачку, разабраліся ў справе і ня толькі не адмовіліся ад супрацоўніцтва зь нерасейскімі „самасьційнікамі", але наадварот, сталі гэтае супрацоўніцтва разьвіваць практычна (у мюнхэнскім Інстытуце і радыі „Вызваленьне"). У дадзеным выпадку, іхнае паступаньне зусім правільнае, як з гледзішча дэмакратычных прынцыпаў, што вызнаюць права ўсіх нацыяў на самавызначэньне, так і з гледзішча практычнага, бо адмова ад гэтых прынцыпаў зрабіла-б немагчымай усякую канцэнтрацыю высілкаў расейскай і нерасейскай эміграцыі і, у той-жа час, пазбавіла-б антыбальшавіцкі лягер той гігантычнай узрыўной сілы, якую прадстаўляюць сабой нацыянальныя рухі, накіраваныя супраць савецкай дыктатуры.

Непрадрашэнская шырма павінна была схаваць за сабой ня толькі слабасьць палітычнай думкі, але й палітычную трусасьць нашых „российских" горадэмакратаў. Бо, у існасьці, мова зусім не аб тым, ці павінны самі народы СССР пастанаўляць аб сваім лёсе шляхам свабоднага волявыяўленьня. З гэтым усе запраўдныя дэмакраты поўнасьцю згодныя. Мова цяпер толькі аб тым, якую пазыцыю ў нацыянальным пытаньні займае сама **расейская эміграцыя.** І ніякім дробным і трусьлівым палітычным абманам нельга выкруціцца ад адказу на гэтае пытаньне.

Для таго, каб нашыя нерасейскія браты па эміграцыі і змаганьню ведалі, які на гэтае пытаньне наш пагляд — пагляд людзей **бясспрэчна расейскіх** (у арыгінале — „русских" — Рэд.) — мы шукалі адпаведнай яснай яснай формы і знайшлі яе ў Свабодным Саюзе Незалежных Дзяржаваў...

Поўнае права на самавызначэньне ёсьць правам на нацыянальна-дзяржаўную незалежнасьць. Вось чаму ў нашай формуле, замест нявыразных словаў аб **Саюзе Народаў** (алюзія да канцэпцыі лідэра расейскай Лігі Б. Нікалаеўскага — „Свободнага Саюзу Народаў Расеі" — Рэд.), сказана ясна: Свабодны Саюз **Незалежных Дзяржаваў.»**

# АМЭРЫКАНСКІЯ ГАРАНТЫІ ДЛЯ ЭЎРОПЫ

Прэзыдэнт Айзэнгаўэр у васабістым пасланьні да ўрадаў сямёх эўрапэйскіх дзяржаваў — сяброў Заходня-Эўрапэйскай Вуніі з 10 сакавіка сёлета пацьвердзіў амэрыканскія гарантыі цесна супрацоўнічаць з эўрапэйскімі саюзьнікамі ў вабароне Эўропы супраць усякай загрозы незалежна ад таго, зь якога боку яна наступіць. Гэтае асьветчаньне адказвае амэрыканскім гарантыям з красавіка 1954 году, дадзеным тады для плянаванай Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці.

У паасобнасьці зрабіў прэзыдэнт Айзэнгаўэр наступныя запэўненьні, якія павінны загарантаваць канчальную ратыфікацыю парыскіх дагавораў:

1. Задзіночаныя Штаты Амэрыкі будуць і ў далейшым супрацоўнічаць у Атлянтычным Пакце над праблемай супольных інтарэсаў, у тым ліку над устанаўленьнем колькаснай сілы войскаў, якія дзяржавамі — сябрамі Атлянтычнага Пакту будуць прадстаўленыя ў распараджэньне галоўнакамандуючага гэтага Пакту.

2. ЗША будуць супрацоўнічаць з заплянаваным урадам збраеньняў Заходня-Эўрапэйскай Вуніі у метах кантраляваньня збраеньняў і «недапушчэньня недастатковых мілітарных прыгатаваньняў дзяржаваў — сяброў Заходня-Эўрапэйскай Вуніі».

3. ЗША будуць у Эўропе, у тым ліку і ў Нямеччыне,трымаць патрэбныя збройныя сілы так доўга, як доўга будзе існаваць загроза для гэтага прастору.

4. ЗША будуць прыймаць удзел у намаганьнях да магчыма цеснай інтэграцыі збройных сілаў Атлянтычнага Пакту ўключна з выстаўленымі нямецкімі дывізіямі.

5. ЗША забавязваюцца, апрача гэтага, абменьвацца із сваімі эўрапэйскімі саюзьнікамі інфармацыямі аб атамным аружжы, на колькі будзе гэта дозволена амэрыканскім Кангрэсам.

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІШЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

6. ЗША будуць разглядаць кажную акцыю, «якая будзе загражаць інтэгрытэту і адзінству Заходня-Эўрапэйскай Вуніі — незалежна ад таго, адкуль гэтая загроза можа прыйсьці — як загрозу для бясьпечнасьці дзяржаваў — партнэраў Атлантычнага Пакту.

У сваім пасланьні прэзыдэнт Айзэнгаўэр пацьвярджае далей, што Атлянтычны Пакт зьяўляецца заключаны на неабмежаваны час. Эвэнтуальнае выступленьне Амэрыкі з Атлянтычнага Пакту было-б «супярэчным з амэрыканскімі інтарэсамі бясьпечнасьці». Айзэнгаўэр выказвае сваё перакананьне, што ажыцьцяўленьне парыскіх дагавораў прывядзе да поўнага адзінства Эўропы. Гэтыя дагаворы таксама прывернуць поўны сувэрэнітэт Нямеччыне, «сувэрэнітэт, якога Нямеччына была пазбаўленая на працягу дзесяцёх год. За гэты час урад і народ гэтай рэспублікі даказалі, што яны здольныя ўзяць на сябе адказнасьць як самастойнага сябры вольнай і міралюбнай сусьветнай супольнасьці».

чыся паміж курганамі. Аднак Дзісна рынулася ў супрацьлеглы ад Сьвенты бок, насустрач сваёй маткі-Дзьвіне. Рынулася, каб разам зь ёй перамагчы ейныя найбольшыя парогі — Перакагрыж і Жалязьніцу, Бродыж і Сярэбраніцу, Улан і Глінавец, Гусар і Ціхую Рубу. Рынулася, каб потым з маткай ды з усімі сваймі сёстрамі дабегчы да Балтыцкага мора.

Там, дзе ўцякае ў Дзьвіну Дзісна, стаіць аднайменны ёй горад Дзісна, пабудаваны яшчэ палачанамі. Аб значаньні гэтага гораду для палачанаў сьветчылі аж тры Барысавых камяні, што былі крыху ніжэй на Дзьвіне. Нельга ня прыгадаць сумнага лёсу гэтых камянёў, бо ён яшчэ раз даводзіць, што расейскі бальшавізм, у зьнішчэньні нашых нацыянальных сьвятыняў, зьяўляецца спадкаемцам расейскага царызму. І першы і другі камяні, вядомыя ў народзе пад назовам «Пісаньнікаў» і «Барысаглебскіх», на крыжы якіх з глыбокай верай хрысьціліся плытагоны, яшчэ ў 1818 г., падарвала «Управление Путей Сообщения» (Кіраўніцтва Шляхоў Зносін), спасылаючыся на тое, што нібы камяні перашкаджалі плытагонам. Трэйці Барысаў камень, вядомы яшчэ пад назовам «Сулібор», Расейцы ў 1879 г. выцягнулі зь Дзьвіны і перавезьлі ў Маскоўскі гістарычны музэй. Бальшавікі, зьнішчыўшы на Беларусі таксама ці мала Барысавых камянёў, за адно перайменавалі праваўзьбярэжную частку Дзісны — Дзісьненскую Слабаду ў Луначарскае, у гонар свайго наркома... асьветы і культуры.

Там, дзе ў Дзьвіну ўцякае Дрыса, палачане заснавалі свой прыгарад, вядомы цяпер, як горад Дрыса, а тады — Дрысь. Гэтак частыя тут паводкі абодзьвюх рэкаў зьнішчылі рэшткі вайсковага ўмацаваньня, што было на іхнім рагу. І нарэшце там, дзе ў Дзьвіну ўцякае рака Друя, што злучала Полацак з вазёрамі Браслава, паўстаў горад Друя, які калісьці некаторы час менаваўся Сапежын, бо яго абралі сваёй рэзыдэнцыяй князі Сапегі. Празь нейкі час з аднаго боку ад гораду на рацэ Друі ўзьнікла мястэчка Друйск, а насупраць, па другі бок Дзьвіны — мястэчка Прыдруйск. Шуміць Дзьвіна, прабягаючы каля Друі, у якой нішто цяпер не нагадвае ейнага ранейшага назову. І ў параўнаньні з гэтым адвечным ды несьмяротным шумам магутнае ракі блякне эпіграма Андрэя Рымшы на гэрб калісьці славутага беларускага роду:

Жывіце-ж, Сапегаве, усі у многія лета!  
Ваша слава слыць будзець, покуль станець сьвета!

Калі пасьля Дзьвіны і ейных прытокаў перайсьці да вазёраў Надзьвіньня, што надалі сваё імя гарадом і мястэчкам, дык першым прыгадваецца вялізнае, глыбокае і бурнае возера Асьвея. На ім ёсьць значная выспа з самым кароткім на Беларусі і разам з тым незразумелым геаграфічным назовам — Ду. За даўнія часы праз возера праходзіў водны шлях, што злучаў Дзьвіну зь Вялікай, Полацак з Псковам, а таму на ягоным беразе і паўстала гарадзішча Асьвея. Шмат чаго гаротнага бачыла Асьвея ў мінулым, але найбольшага ліха дазналася і яна і ейная ваколічнасьць у часе Другое Сусьветнае вайны. Здаўна латыскія нацыяналы, акупаваўшы сьпярша з дапамогай кайзэраўскага генэрала графа Рудыгера фон дэр Гольца Дзьвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы Віцебшчыны, у якіх большасьць насельніцтва складалі Беларусы, марылі аб далейшым прасоўваньні на ўсход. Таму, калі нямецкія нацы загадалі латыскім нацы ліквідаваць партызанаў у Асьвейшчыне, дык лютасьць гэтых гайдукоў у дачыненьні да мірнага насельніцтва зьдзівіла навет іхніх паноў. Латыская эс-эс дывізія ператварыла ўвесь раён у пустэльню, спаліўшы жыўцом у зачыненых хатах больш за 15 тысяч старых, жанчын і дзяцей. Гэтыя фашыстоўскія найміты — кроў ад крыві і плоць ад плоці бальшавіцкіх наймітаў — латыскіх стралкоў, што раздушылі ці мала супрацьбальшавіцкіх паўстаньняў на Беларусі, нагадваюць нам у сувязі з Асьвеяй толькі Татараў часоў Батыя.

Таксама ад вазёраў паходзіць назоў гораду Люцына, які паступова меў назовы — Лужа, Луйцэн, Лудзен, Лучын, Люцын і нарэшце Латышы ў сваю чаргу перайменавалі яго ў Лудзе. Паводля навуковых дадзеных, замак Люцын пабудаваў магістар лівонскага ордэну, паводля нямецкага паданьня, назоў і замку і гораду паходзіць ад дзяўчыны Люцыі, сёстры якое Разалія і Марыя, нібы, таксама знайшлі адбітак у назовах Рэжыцы і Марыенгаўзэна. Не падлягае сумлеву, што замак запраўды пабудавалі крыжакі, як і ня зьдзіўляе самы назоў Люцын, бо ведаем на Беларусі іншую Люцынку — хвальварак пад Менскам, дзе бяз малага 50 год пражыў Дунін-Марцінкевіч і дзе ў ягонае дачкі вучыўся Ядвігін Ш. Аднак у 1892 г. вядомы навуковец А. Раманаў, раскапваючы паблізу ад крушняў замку старажытнае гарадзішча, знайшоў пад ім шырака вядомы цяпер паміж навукоўцамі Люцынскі магільнік, які, як сьветчыць мноства знойдзеных пахавальных рэчаў, належыў Крывічом. Акрамя дасьледваньня А. Раманава, сьцьвярджаюць беларускае паходжаньне гораду і ягонага назову два возеры, паміж якімі ён паўстаў і якія дагэтуль захавалі свой першы назоў — Вялікая і Малая Лужы.

У паўночным Надзьвіньні, на ўзвышанай паўвысьпе вялікага Себяскага возера, якую злучае з сухазем'ем вузкі пярэсмык, існуе здаўна горад Себяж. У геалёгіі гэткая паўвыспа мае назоў — «оз», але паводля народнага паданьня возера самое намыла паўвыспу, каб затуліць сабой свой горад ад ворагаў. Аднак усё-ж Себяж стаўся адным з найпакутных гарадоў Беларусі. Яго некалькі разоў зьнішчалі дарэшты, але ён адраджаўся зноў. За Івана Грознага Расейцы спрабавалі накінуць яму новае імя — Івангорад, за цара Аляксея Міхайлавіча расейскія ваяводы ягоны замак перайменавалі ў Крэмль, у 1705 г. яго спаліў Пётр Першы. І адпаведны адбітак знайшла гісторыя Себяжа ў радкох закатаванага бальшавікамі паэты Алеся Дудара:

Ішлі людзі празь Себяж на захад,  
Ня згубіўшы шукалі чагосьці  
І пад замчышчам сохнуць і чахнуць  
Беларускія белыя косьці.

У паўднёвым Надзьвіньні ёсьць вялікае Лукамльскае возера, пра якое існуе паданьне, што яно ў галодныя гады, падобна возеру Нарач, выкідвала на сваё ўзьбярэжжа рыбу. З усходняга берагу возера ня бачыш заходняга, каб не Катарсы — маляўнічае ўзгор'е, што ідзе адсюль аж да Лепельскага возера. Лукамльскае возера злучае зь Дзьвіной рэчка Лукамка, прыток Вулы, і там, дзе яна выцякае зь яго, за даўнія часы паўстаў на ўзвышшы горад Лукамля, набыўшы свой назоў ад возера і рэчкі. Яшчэ заяцты вораг нашага народу кіеўскі князь Уладзімер Манамах, які ў 1084 г. у Менску не пакінуў паводля летапісу «ни челядина, ни скотины», спаліў перад гэтым у 1078 г. горад Лукамлю, помсьцячыся Усяславу Вялікаму. З тутэйшых князёў Лукамльскіх вядомы Іван, які адмыслова паехаў на службу да Івана Трэйцяга, што першы пачаў менаваць сам сябе царом «всея Руси», каб забіць яго. Аднак Масква праз сваіх шпегаў даведалася аб гэтым і спаліла Івана Лукамльскага ў клетцы на Балотнай плошчы. З таго часу горад паступова ператварыўся ў мястэчка, зьмялчэла і адсунулася ад яго аж на два кілямэтры возера, рэчка, паглыбляючы сваё рэчышча, на палову падмыла тутэйшае замчышча, але не падуладна часу несьмяротная слава нашых прашчураў.

Паблізу Віцебску, каля возера Астроўна, ляжыць пад тым-жа назовам старадаўняе, але напоўзабытае ціхае мястэчка. Над вузкімі вулічкамі зь сьціплымі хатамі ўзвышаецца каменная вежа з гадзіньнікам. Яна яшчэ помніць, як тут у часе вайны 1812 г. расейскі генэрал Астэрман-Талстой загадаў свайму корпусу: «Стаяць і паміраць!», і як нэапалітанскі кароль маршал Мюрат на чале свае коньніцы кідаўся ў ватаку з крыкам: «Харобрыя, за мной!». Аднак ужо ніякага сьледу не засталося ад дарагога для нас будынку, у якім у 1557 г. нарадзіўся «Бацька Бацькаўшчыны», найвялікшы наш дзяржаўны муж — Леў Сапега. Мне ўсё-ж пашанцавала знайсьці на прыгожым узгорку над возерам, паводля старых плянаў і на-

# Літаратурны Дадатак

Уладзімер Дудзіцкі

## Журботныя струны

### СЬВІТАНАК

Сьвяжуткі зары сьвітанак,
купаючыся ў расе,
зь месячыкам на ганак
хацінкі мае прысеў.

Палашчыў ваконцаў шкелцы, —
сінюткае срэбра рос,
а потым чысьцюткім цельцам
да пёрка майго прырос. . .

Сяброўства трыўкога почуў
з шырокіх сьвятліц душы
выносіў на сонечны вочап
сьпялюткія думак каўшы.

Важкія, адменнай масьці,
з тугою лясных смужын,
ня ўмелі ні ткаць, ні прасьці
у праслах вузкіх, ні жыць. . .

У замуце днёў, сьвітанак,
памыўся у расе,
пакінуў мой сьціплы ганак
і ў зацішку моўчкі сеў. . .

**Вэнэцуэля, 2. 4. 1951**

### ВУСНЫ І ПЕСЬНІ

Прачніцеся, вусны і песьні,
каб думак у сэрцы ня сплесьніць;

каб подых вятроў і рэклямаў
дарожкі вузюткай ня спляміў, —

ня гэтай, што топчам і полем,
тае, што шлюбуецца з болем, —

няходжанай, з пахам чабору,
дзе вербы з жытамі гавораць,

дзе сочыцца ў мякішы ночы
халодны рабінавы почат

і плачуць па восені руннай
завеяў журботныя струны. . .

Прачніцеся, вусны і песьні,
каб думак у сэрцы ня сплесьніць.

**Вэнэцуэля, 16. 10. 1949**

### ВЯЛІКІЯ ШЭЛЬМЫ

**Станіславу Станкевічу**

У маленсцьве чужыя казалі —
і яно не забудзецца, мусіць, —
што эгзотыка нейкай Казані
прыгажэй ад лясоў Беларусі.

Я ня ведаю, можа здалося,
што душа аблівалася воцтам,
але помню: у жоўтую восень
маё сэрца сьціскалася моцна.

І ружовае сталася чорным,
няпрыемным і прыкрасным вельмі.
Я-ж ня думаў, што ў краі вазёрным
ёсьць такія вялікія шэльмы. . .

**Нямеччына, 1944**

### ЖАЛОБА

Было ды з вадою сплыло, —
лістамі лілей спавілося. . .
Па згубе маё сяло
жалобу вялікую носіць.

У чорным. І крыж ля ракі.
Таполяў вільготныя бровы
калышуць у вецьці мяккім
утраты і сподзеву словы:

«Было ды з вадою сплыло, —
лістамі лілей спавілося. . .
Над тым, што пад сонцам цьвіло,
і молімся і галосім.

Ня вернецца — вечны спакой,
акажацца — выжывім неяк. . .
Паклонімся хвалі плыўкой
за літасьць і белым лілеям

І скажам: было й нябыло, —
бялюткі. . . акрэп і вырас. . .»
— Маліся, маліся, маё сяло,
за сьветлы зваротнага выраз.

**Вэнэцуэля, 11. 5. 1954**

### ЖЫЦЦЁ

Шанаваў я цябе, кунежыў, —
захапленьне ня мела меж,
а ты сьціснула злосна межы,
каб маліліся д'яблу веж. . .

Не скарыўся. Ураньні — нашча —
прысягнуў шчыра Сіле сіл:
«Лепш прапасьці ці быць прапашчым,
як пад сэрцам вужа насіць».

За упартасьць маю, няпослух,
за свае — не мае — грахі
звахтавала ў затоках вёслы
і шпурнула на грозны хіб

акіяну: «Плыві і кайся,
прыліпай да чужых зямель —
У Пэру, ля канадзкіх пасек,
і такое трымай на ўме:

за упартасьць тваю, няпослух,
за падняты угору сьцяг —
не прачнуцца у песьнях вёсны
на абломках скупых жыцьця. . .»

І як вырак, сухі і згуслы, —
непапраўны — із вуснаў зьбег, —
скамянеў, не крануўшы вуснаў,
пераняты у горле сьмех.

**Вэнэцуэля, 5. 6. 54**

### ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ

Хвалі ад берагу — далей і далей. . .
Чым іх усьцешаць туманныя далі?

Спыняць, расьцісьнуць на сьпінах наплываў
дугаў тугія зялёныя грывы;

пенаю жоўтай на мелях затокаў
вецер прыгорне у краі далёкім;

буры сівыя глыбінь безьязыкіх
век закалышуць на поўначы дзікай. . .

Лепей употай на пальмавай высьпе,
пэрлавай занізьзю рос было высьпець,

кроплямі цёплымі — дожджыкам чыстым —
спорна разьліцца над краем вячыстым, —

краем, што стогне і б'ецца у русе. . .
Гора-ж і ім і маёй Беларусі. . .

**Караібскае мора, 27. 7. 1950**

### НЕСПАДЗЯВАНА

Неспадзявана сьціўшылі хаду.
Спыніліся. Ля вогнішчаў гарачых
варушыць ноч ня першую жуду
над чарапамі жоўтымі няўдачы.

Тугой брыняюць снасьці і чаўны. . .
Шчапаюцца раздвоеныя маршы,
і водгалас у пошчаку лясным
губляецца на ганьбу плыні нашай. . .

*

Мінаюцца кварталы і слупы —
паўтораюцца фарбы і рэклямы. . .
У роспачы ад вымыслаў скупых,
малярскі квач палотнішчы папляміў. . .

Хвалююцца сябры. А гледачы
падлічваюць нячуваныя кошты. . .
Вазьму, бадай, я брамы на ключы,
каб ня дзівіліся
і ня пыталіся навошта. . .

*

Хацеў пісаць ня вершы, а лісты,
ды словы глейкім сумам наліліся.
Упаў з-пад рук пазычаны кастыль
і рану цяжкую у грудзях высек.

Упартая ад болесьці, яна
ня лечыцца, як модна ні залечвай, —
шчыміць. Дрыжыць напятая струна
па ростані і няблізюткай стрэчы.

**Брэмэнгафэн, 17. 9. 47**

### ЛЯ БЕРАГОЎ КРЫВІЦКАЕ НЯМІГІ

Уецца шлях зразкою каляінай,
а часам камяністасьцю ўстае.
Сьціскаецца, суродзічы мае,
ад гневу голас песьні сакалінай.

Бы грэшнік той, прад чорнаю гадзінай
малюся сонцу. Вельмі-ж не стае
журботнае, вазёрнае мае,
далёкае і блізкае — адзінай. . .

Калі-ж, калі зьнітуюцца з Радзімай
пад сонцам дум сьпялюткіх невады?
Запlodненыя сподзевам, сады
ўсупор зышліся з постылай азімай. . .

І крышацца ільдоў грымотных крыгі
ля берагоў крывіцкае Нямігі. . .

**Вэнэцуэля, 25. 3. 1954**

**(Заканчэньне цыклю будзе)**

Алесь Салавей

### ЗАРАНКА ЎСХОДУ

Ці адчуваеш? Вёсны адшумелі
з пары, калі мы вольнымі арламі
шугалі ў высі. . . З хвалямі-кругамі
пакінуў човен долы, травы, мелі.

Да іх з праводзін чайкі адляцелі.
Ці новых стрэнеш перад берагамі
нязнаных сьветаў? Дзесьці за марамі
ці ты спачынеш? На якой пасьцелі?

Тускнее захад. І заранка ўсходу
на ўзьлётных крылах будзіць насалоду —
у ёй сьвітальна-велічнае штосьці:

жыццё няўхільна хіліцца да сьхілу,
але ня зьляжа ў цёмную магілу
жывы адвеку подых маладосьці.

### НЯ З ВАМІ

З трыбунных высяў прамаўлялі ўчора:
— «Калі ня з намі, першы ўчынак — здрада!»
А сяньня ў засьці заўтрашняя ўлада
і нявыразна весьціць гойнасьць зоры.

Вы гэтак хутка падаліся ў норы —
і млоснай сыці думка ваша рада.
Разьменных пешчаў танная прынада
душу прапасьціць у прадажнай зморы.

Часы мінаюць. Тыя, што ня з вамі
крыштальнасьць духу ўзносяць над вякамі,
яны — надойсьця чолы-авангарды.

Але ў прадоньне заламаным крокам,
найсьвятшых скарбаў зманлівым вырокам,
цяжкія цэглы ганьбы і пагарды.

---

родных паданьняў, тое месца, дзе ён знаходзіўся, і ўявіць сабе, што ў незалежнай Беларусі тут паўстане помнік. Тымчасам працягваецца гэтае ўпартае змаганьне за незалежнасьць Беларусі, у якім чынны ўдзел браў Леў Сапега, што пакінуў патомкам у сваім «Літоўскім Статуце» запавет:

> «Уставуем тэж: хто-бы з бітвы ўцёк, за слушным довадам ад гэтмана, цераз вырак наш гаспадарскі іменьне і чэсьць траціць».

Калі ад Надзьвіньня перайсьці да геаграфічных називаў, што паходзяць ад Дняпра і ягонага басэйну, дык перш за ўсё прыгадваецца Смаленск. Бяз сумлеву назоў Смаленску паходзіць ад смалы, але разам з тым гэтая смала мела зусім іншае прызначэньне, чым у шматлікіх нашых Будах, Смалявічах і Смалянах. У канцы мінулага стагодзьдзя архэалёгі, пачаўшы раскапваць ланцуг вялікіх курганоў на беразе Дняпра, адразу-ж пераканаліся, што гэта і ня курганы, або валатоўкі ці сопкі — колішнія магілы, і не капцы — даўнія вярставыя слупы, а сховішчы смалы, прысыпаныя зьверху зямлёй. Гэтая знаходка пацьвердзіла ранейшае навуковае прыпушчэньне аб значаньні і ролі даўняга Смаленску. Горад паўстаў на сярэдзіне воднага шляху «з Варагаў у Грэкі» і ў цэнтры пераволокаў з Дняпра ў басэйн возера Ільмень. У дадатак, з гэтым водным шляхам тут крыжаваўся водны шлях з-за Камы ў Нямеччыну. Не дарма Вокаўскі, або Волакаўскі Лес, што зь геаграфічнага пункту гледжаньня зьяўляецца часткай Надзьвіньня, гістарычна бадай заўсёды належыў да Смаленшчыны. Тут князі ды купцы смалілі свае ладне пашарпаныя ў парогах Дняпра, Волхава і Дзьвіны чаўны — адсюль і назоў Смаленска.

Беларушчына Смаленску яшчэ з тых часоў, калі Канстантын Парфірагэнэт прыгадаў яго, як «Міліniск», а поўлегэндарны Аскольд амінуў, бо горад быў «вялік і мног людзьмі», і да сучаснасьці не падлягае сумлеву. Прыгожа зазначыў наш паэта аб нашых гарадох:

Гарады там — Менск і Вільня,
Магілёў, Гародня
І Смаленск зь сьцяной цаглянай
Разьляглі выгодна.

Аднак акурат «сьцяна цагляная», згубіўшы сваё вайсковае значаньне, захавала сымбалічнае, што спакідае ў Беларусаў значны нясмак.

Калісьці Крывіцкі, а потым Літоўскі Смаленск зьяўляўся найбольш усходнім фарпостам заходняе цывілізацыі. Як характэрна, што дагэтуль смальняне лічуць патронам свайго гораду сьвятога Мяркура Смаленскага, якога, паводля паданьня, Божая Маці прыслала сюды з Рыму для абароны хрысьціянства і які ў 1238 г. сам загінуў пад Даўгамосьцям, але перамог Татараў. Як паказальна, што «Смаленскую Гандлёвую Праўду» 1229 г. стварылі Смаленск, Полацак і Віцебск з аднаго боку, а з другога — Рыга, Вісбі, Любэк, Брэмен і Дортмунд. Як адзначна, што паводля слоў летапіса сьвятары рычэлі, як ваўкі, на сьвятога Аўрама Смаленскага і мітрапаліта Клімента Смаляціча за тое, што тыя ў сваіх казаньнях, якрамя Слова Божага, спасылаліся на Гамэра, Арыстотэля і Плятона. Мы не забывайма ніколі, якой несьмяротнай славай пакрылі сябе ў 1410 г. пад Грынвальдам зацятыя смаленскія палкі зь Юрыям Лугвеніявічам на чале. Не дарма іменна Смаленшчына дала Беларусі Сапегаў. Тут пісаў свой славуты летапіс Аўрамка. Ня выпадкова невядомы аўтар уклаў патрыятычную прамову на сойме 1589 г. іменна ў вусны каштэляна смаленскага Івана Мялешкі, які кінуў у вочы каралю: «Многа тут такіх, што хоць нашая костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняе». Мы разумеем таксама гнеўны ліст Камуняка ў 1664 г. да аднае з гэтых «косткаў» — ваяводы Піліпа Абуховіча, у якім зазначаецца: «. . . ды бедныя, у кажехох сем лет ад маскалёў Смаленск абаранялі, то вы, мудрэйшыя, у собалях, за чатырнаццаць тыдняў яго ёй аддалі».

Потым, перамагаючы наш супраціў, падмінаючы нашую нацыянальную апрычонасьць, сюды прыйшла Масква. Гэта яна пабудавала на нашых касьцёх і супраць нас цьвярдыню, сьцяна якое працягнулася аж на дзесяць кілямэтраў, нагадываючы сабой ня нашыя беларускія замкі, а вядомы кітайскі мур. Але дарма. Хаця і прабуе Масква адгарадзіць ад нас Беларусаў Смаленск азіяцкім мурам, самыя назовы вежаў якога накшталт Зімбулка, Шамбелка, нагадываюць Татараў, усё-ж дагэтуль перахоўваецца ў тутэйшым саборы дарагі для нас іржавы і руды ад часу і крыві шышак сьвятога Мяркура.

Паблізу ад Смаленску знаходзіцца мястэчка Катынь, што атрымала свой назоў ад рэчкі Катынаўкі, якая тут уцякае ў Дняпро. Цяпер гэтае мястэчка вядомае ўсяму сьвету, і ягоны назоў, стаўшыся назоўнікам набыў іншае выпадковае, але разам з тым трапнае тлумачэньне. У ваколічнасьці Катыні на працягу красавіка і травеня 1940 г. бальшавікі расстралялі каля 10 тысяч палонных польскіх ахвіцэраў, закапаўшы потым іх у вялікіх агульных магілах. 1 красавіка 1944 г. Немцы раскапалі гэтыя магілы, і крывавая трагэдыя набыла сусьветны водгук. Хаця нямецкі фашызм у кажным вялікім і малым горадзе пакінуў такія-ж магілы ім замардаваных, а таму расейскі бальшавізм спрабаваў абвінаваціць яго і ў Катыні, але й тутэйшыя жыхары і міжнароднае сьледзтва давялі, што да тутэйшых магілаў спрычыніўся расейскі бальшавізм. І сяньня назоў Катыні пашырыўся на ўсе месцы масавага зьнішчэньня бальшавікамі сваіх ворагаў. Да нашых беларускіх Катыняў належаць Пакроўскае Поле ў Вяліжы, дзе ў вагульных магілах ляжыць каля тысячы беларускіх паўстанцаў і партызанаў, Чычагоўскія Батарэі ў Барысаве, дзе пасьля паўстаньня 1919 г. і галоднага бунту 1933 г. закапана таксама каля тысячы Беларусаў, Духаўскі Роў і Мазурына ў Віцебску, Бярозавец каля Глыбокага і г. д. і г. д. аж скрозь па ўсёй нашае крывёю ды сьлязамі абмытае зямлі. І хаця самае мястэчка ня спрычынілася да бойні, што паблізу ад яго адбылася, і хаця ягоны старадаўны назоў паходзіць ад рэчкі, але набыў ён іншы сэнс — каты.

Там, дзе ў Дняпро ўцякае рэчка Шклавянка, за даўнія часы паўстаў горад Шклоў. Як шмат іншых нашых калішніх гарадоў, ён паступова заняпаў. Яшчэ за караля Аўгуста III Шклоў атрымаў паказальны гэрб — бязьмен, або кантар, што сьветчыла аб ягоным гандлёвым значаньні. Пазьней Кацярына Другая, набыўшы на Беларусі мільёны «крепостных» (прыгоньнікаў), падаравала Шклоў, як тыя пальчаткі, сьпярша князю Пацёмкіну, а потым графу Зубаву. Апошні пабудаваў вялізны палац, і за ягоныя часы зьявіўся характэрны выраз: «Магілёў, што паблізу Шклова». Аднак у 1885 г. крушні гэтага палацу былі разабраныя і прададзеныя, як цэгла. Мы сумуем аб тымчасовым заняпадзе нашага Шклова і адначасна не абыходзіць нас заняпад чужых і варожых нам князёў ды графоў.

Да ліку найбольш дарагіх для Беларусаў гарадоў належыць Слуцак, або колішні — Случеск, Случек, што ляжыць на рацэ Случы, прытокі Прыпяці і значыцца ўваходзіць у басэйн Дняпра. Аднак калі назоў гораду паходзіць ад ракі, дык тая атрымала свой назоў таму, што калісьці злучала Нёман з Дняпром, Вільню і Менск зь Кіевам, Балтыцкае мора з Чорным. Дарэчы гэтак-жа паўстаў назоў калісьці прыналежнага да нашае дзяржавы гораду Вязьмы — ад «связывать» (злучаць) праз раку Вязьму басэйн Волгі з басэйнам Дняпра. Адсюль, зразумела, вялікае гістарычнае значаньне гораду, што паўстаў на Случы і ўпяршыню прыгадваецца яшчэ ў 1116 г.

Наш народ адзначыў значаньне Слуцку ў сваёй гістарычнай песьні:

Із-за Слуцка, із-за Клецка
Едзе дружба маладзецка
Ад княжаці із-пад Мінска
Ваяваці места Пінска.

Аднак разам з тым народная прыказка — У Слуцку ўсё па людзку — успрыймаецца, калі мець на ўвазе ягоную былую гісторыю, як гіронія. Запраўды можа ні адзін горад на Беларусі гэтак не характэрны для нутраных братазабойчых

**Мартын Люціч**

# Спозьненае каханьне

Надвор'е мокрае, няпрыемнае: аплаткі халіпы касым, павольным струменем спадаюць уніз; засьцілаюць дахі, сьцены, драўляныя местачковыя ходнікі; залепліваюць шыбы ў вокнах. Потым сьнег перастае і пачынае сыпаць — і навет ліць — дождж. На вуліцах утвараецца кісель — вадкі і плясклівы. Усьлед за тым, зноў пачынаецца халіпа. І так ужо колькі дзён.

І нэрвы ў сакратара райкома Крыпеца — як гэтае надвор'е: заторганы ўсемажлівымі кампаніямі, зьездамі і сходамі; то ён хопіцца, навет пры выкананьні службовых абавязкаў, за наган, то ўпадзе ў глыбокую і цяжкую роспач...

Ён толькі што вярнуўся з аб'езду па калгасах. Вылез з пад парасону старога фордзіка — у той час іншых аўтамашын яшчэ ня было — разьюшаны, як вепр. У вялікіх ботах, з казыркамі на халяўках зь пераду; у жоўта-зялёным галіфэ, зморшчаным пад каленкамі, як дванаццаціперставая кішка, у шэрай, досыць цяжкой, ватняй куртцы, пашытай з старога салдацкага шыняля і ў шэрай-жа каракулевай шапцы фасону «а ля Цімашэнка», ён грузна і цяжка ўзыйшоў на ганак забраніраванага для адказных раённых працаўнікоў камунальнага дому. У руцэ трымаў разбурхлую скураную тэчку, у другой — пак брашураў і плякатаў па чарговых кампаніях. Страсянуўшы сьнег і ваду з шапкі і ватоўкі і выцершы боты аб плеценую з саломы падсьцілку, што ляжала каля самых дзьвярэй, увайшоў у кватэру. Быў адразу-ж аглушаны патэфоннай пліткай:

> «Удивительный вопрос — ха-ха...
> Почему я водовоз — ха-ха...
> Потому, что без воды
> И ни туды, и ни сюды...»

— Спыні гэтае рыганьне! — груба загадаў жонцы і кінуў у кут пакунак з брашурамі і плякатамі, абсыпаны сьнегам і прымочаны дажджом.

Круглаватая і пульхнаватая Коця (любіла, каб яе так называлі) з маленькім, гузікаватым носам, тонучым паміж падушак шчок, пасьпяшыла затрымаць патэфон, думаючы, што з мужам здарылася нейкае няшчасьце. Крыпец паклаў тэчку на стол і пачаў зьдзяваць ватоўку і шапку.

— Гніеш пад шумок гэтых дрындушак! — заўважыў абрыдліва.

— Ніка, ты хочаш, каб я сядзела, як мыш у клетцы?!

— Які я табе Ніка! — працадзіў скрозь зубы Крыпец. — Звычайны Нічыпар з Падбярэзьзя...

Падыйшоў да стала, пастаяў, азірнуўся на хату. Усё было на сваім месцы: некалькі прыгожых кіноактарак у рамачках, нейкі нявыразны цёмны сілуэт пад шклом у эгзатычным стане, некалькі ілюстрацыяў з часапісу «Аганёк» нэпаўскага пэрыяду, у вадным з кутоў вялізарны павук, зроблены з каляровай паперы... Зірнуўшы ў той кут, Крыпец наморшчыўся.

— Ніколі ня прышывай мне свайго мяшчанскага бляску!..

— Як цяжка жыць у такой... атмасфэры! — адгукнулася жонка зь незадаваленьнем.

Вочы Крыпеца адразу-ж заіскрыліся ухмылкай — злоснай і нецярплівай.

— Картоплю трэба было-б ісьці пакапаць табе... разам з босымі калгаснымі бабамі... пад дажджом і сьнегам!.. — зазначыў амаль з скрыгатам зубоў.

Коця пачырванела і маўчала.

— Ты была калі-небудзь на полі ў сьцюжу і непагадзь?! Ты бачыла, як бабы і, навет, дзеці, з пасінелымі лыткамі і адубелымі рукамі, выбіраюць картоплю?! Ня была? І ня бачыла? Ты цэніш яе толькі ў гатовым, абабраным выглядзе?! Вельмі шкода, што ня была і ня бачыла...

Шэрыя вочы ягоныя заблішчэлі з пад нахмураных брывей і, нечакана для самага сябе, спыніліся на акругленых жончыных бёдрах, гладка абцягнутых тонкім «крэпдэшынам» у цёмна-сінія кветкі. Потым гэты позірк пераскочыў на ейныя рукі, белыя і далікатныя, з нафарбаванымі пазногцямі.

— Такія, як ты, ня могуць зразумець, што, каб мець гэтую картоплю ў гатовым выглядзе, нехта павінен яе пасадзіць, а потым выбраць!.. І яшчэ адно, што мы яе вырываем амаль з роту ў тых, каму яна належыць... — Падумаў. — Я вырываю! — дадаў і парнуў пальцам сабе ў грудзі. — А калі не аддаюць, у Сібір іх ссылаю!.. Як ты цяпер глядзіш на свайго мужа?!..

Не чакаючы адказу, ён хапіўся за вялікую лахматую галаву і запусьціў у валасы кароткія пальцы. У такім стане спусьціўся на канапу — новую, толькі што дастаўленую ў лік «авансу» на «абсталяваньне» (такія «авансы», звычайна, выпісваюцца з дзяржаўных сродкаў усім адказным працаўнікам). Жонка пачала лямантаваць: — Ты хочаш, каб я, скончыўшы дзесяцігодку, пайшла выбіраць картоплю разам зь вясковымі бабамі? На што-ж ты мяне браў, ведаючы добра, што я на гэта няздатная!? Ты скалечыў маё жыцьцё! Сапсаваў маю кар'еру, сарваўшы з добрага месца! Сакраткай у наркома я была-б шчасьлівейшай, чым цяперака ў цябе!.. Ты хадзіў за мной, не даваў спакою, а цяпер папракаеш?!..

Крыпец яе ня слухаў. Тое, што ён убачыў і глыбака адчуў пры астатняй паездцы па раёне, прыдушыла яго, прыгняло і не давала дыхнуць. Колькі ахвяраў! Хто мог падумаць, што яно выльлецца ў такую форму! Ён успомніў франты: польскі, дзянікінскі, калчакоўскі, каледзінскі... Тыфусы! Голад! Усезьнішчальнай саранчой, абшарпаная і босая, зь вінтоўкамі на вяровачках, сыпле на захад і ўсход, поўдзень і поўнач чырвонаармейская маса... І няма ёй запору: ні лютыя маразы, ні вашывая блякада, ні гарачкавы скрыгат хворых па шпіталях, ні раны і сьмерць не маглі яе паўстрымаць! «Зямля і воля!.. Вайна — палацам, мір — хіжынам!..» І — вось!.. Які ён быў дурны, што верыў у гэта! Прастрэлены лёгкія... Пакалечаны хрыбет... Паламаны рэбры... Ён ужо не чалавек. Ён — калека — і фізычна і псыхічна! Крыпец бачыў сябе ў тыфозным шпіталю. Гарачкавае блузьненьне ніткамі блытаецца ў мазгу. То ён у вагні, то скача на нейкіх дзіўных конях з арлінымі крыламі, то капошыцца на могілках сярод мерцьвякоў і бразджаць на кастамагах косьці... Потым яго шукаюць ягоныя бацькі і ён ніяк ня можа ім адгукнуцца... Ён хоча ўзьняцца, каб вырвацца з гэтых кашмараў, куды-небудзь уцячы і, як толькі падымаецца, зноў падае на набітую драўлянай стружкай шпітальную падушку... І гарыць ягонае цела і здаецца вось-вось расшчэпіцца галава. Раптам, ён чуе: «Вытрымае гэтую ноч, застанецца жыць!..» Гэта гаварыў доктар да сястры палаты. Вытрымаў! Пасьля крызысу ляжаў абамлелым на цьвёрдым — пасьля хваробы цьвярдзейшым у сто разоў — сяньніку, прамочаным сьмярдзючым потам. Драўлянай лапатачкай сястра зграбала зь ягонага языка, з паднябеньня аблезлую ад гарачкі скуру. Па сутнасьці, ён вярнуўся ўжо з паза сьвету і сястра сказала: «Толькі ваша моцнае сэрца ўратавала вас ад трупярні! Ваш сусед па ложку, што ў гарачцы ўсё крычаў: « — Уперад!» — ужо там. «А потым спытала: « — Вы, пэўне, вырасьлі ў вёсцы?!» І, калі ён пацьвердзіў гэта, дадала: «Зразумела, ня з цэнтральных губэрніяў?! Чуваць па мове!» — «Не, я зь Менскай губэрні...» — «О, дык вы-ж чужаземец!» — «Цяперака там утварылася новая дзяржава — Беларуска-Літоўская, як некалі даўней, да царыцы Кацярыны...»

Гэта была першая вестка аб бацькаўшчыне за доўгія гады ягонага блуканьня па сьвеце. Аднак, яго гэта ня вельмі кранула. Нацыянальнай праблемы для яго тады яшчэ ня існавала. Яму здавалася: усюды добра, дзе ёсьць удосталь хлеба і дах над галавой. Ён не разумеў, што гэты хлеб у яго могуць адабраць і выгнаць з пад даху... Здавалася яму: уся бяда ў тым, што на сьвеце ёсьць тыфусы, ёсьць голад, кулі і стрыльны, якія забіваюць людзей. І, ня гледзячы на тое, што, па выйсьцю із шпіталю, яму давалася мажлівасьць, навет зусім афіцыйная, праз канцылярыю шпіталя, выбраць дакумэнты як чужаземцу, кінуць войска і вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб будаваць яе, ён усё-ж паехаў у полк. Гэта памылка дорага яму каштавала: апрача таго, што яго зноў грызла галодная азіяцкая вош і прышлося падставіць пад кулі рэбры і хрыбет, ён апынуўся ў фальшывай сытуацыі — ваяваў, за што?! Гэтае пытаньне цяпер пякло ўсё ягонае нутро. Ваяваў за тое, каб зруйнаваць муры турмы і на іх месца ўзьвесьці яшчэ мацнейшыя?!.. Ня мог прабачыць сабе гэтага, навет у тыя часы, калі ўсё, здавалася, ішло добра, — ня мог глядзець на брата-мужыка, якога ён запрог цягнуць чужы воз!..

Крыпец усё ніжэй і ніжэй апускаў галаву, заціснуўшы паміж пальцамі клочча валасоў, рудое, як падгарэлая воўна. Жонка лямантавала:

— Я даўно ўжо зразумела, што ты мне ілгаў! Так, ты заўсёды мне ілгаў!.. Надакучыла, сьвяжынкі захацеў?..

Крыпец ня рэагаваў на гэты лямант. У думках ён быў з сваім дзяцінствам. Невялічкая хатка над рэчкай, стромкай і празрыстай. Самотная дзічка-дуля пад вакном. Ужо восень, як і цяпер. Босы, у вузенькіх радняных штанішках, ён лезе на дулю, дзе вісіць пара ўцалелых ад вятроў і марозаў плёнаў. Які бястурботны і прыемны быў час! Сярод сваіх — сярод сваіх! Потым ён едзе з хлапцамі і дзяўчатамі на начлег. Кажаны лётаюць над табуном коняй. Хрыплы канцэрт жабак заглушае ўсё. Зносяць дровы, кладуць касьцёр і потым гульні і апавяданьні, аж пакуль не забарвее заравам усход. Купаньне грамадою ў бурлівай вадзе рэчкі, ныраньне ў пошуках рыб, зьбіраньне кветак у дзень Яна Купалы... А ўвечары... Што было ўвечары? Ага! Раскладалі на вуліцах аграмадны касьцёр, абстаўлялі яго лаўкамі. Старыя сядзелі і апавядалі, сьпявалі песьні. Як гэта там?

> «А ў Янкі Купалы-ы...»

Не, здаецца, неяк іначай, а можа навет і так... Зачынаецца, здаецца, так... А потым, скаканьне праз касьцёр і пошукі кветкі шчасьця... Гэта самае цікавае, бо таямнічае, амаль чараўнічае і страшнае... І яна, Хрысьціна, бывала, заўсёды хадзіла па гэтую кветку шчасьця — не аднойдзена яна яшчэ пакуль што!.. Які страх агортваў яго перад ёй, перад Хрысьцінай! І якую яна спраўляла яму прыемнасьць, калі зь ім пачынала размаўляць або хаця-б заўважала яго зрокам! Сэрца, здавалася, выскаквала з грудзей і ўносілася на неба. І так хацелася зрабіць для яе, перад ёй, штонебудзь асаблівае, прыгожае, шляхотнае... Памятае, як ён быў. аднаго разу, пэўным, што сяньня абавязкава знойдзе кветку шчасьця і тады яна будзе ягонай, ня зможа ад яго адлучыцца, адарвацца ад ягоных вачэй і будзе заўсёды і назаўсёды зь ім!.. Хрысьціна, смуглявая дзяўчынка з войстрым носікам, з быстрым зрокам вачэй — сіня-сініх, — яна і была для яго кветкай шчасьця! Як хораша яна яго спаткала тады, калі ён, пасьля раненьняў, прыехаў быў у вёску на адпачынак! І якой добрай, шчырай сваёй мовай размаўляла зь ім! Зусім іначай, чым гэтая. — «Ніка, какой ты лавелас?!» Або: « — Ты, Ніка, очень амурный!..» Ха-ха! Проста — мяшчуха, як кажа кабета, што прыносіць малако. Памятае: быў цёплы ліпеньскі вечар — бяз зораў, толькі месяц, як срэбны новы рубель, пабліскваў над заціхшымі прасторамі палёў і лясоў у шэра-блакітным павуціньні ночы. У гэты вечар ён праводзіў Хрысьціну з ігрышча да хаты. Яна была ў новенькім андарачку — зялёныя і чырвоныя пасачкі зьнізу дадолу — у белай вышытай блюзцы, тонкай і лёгкай і пад квяцістай хусьцінай, таксама зялёнае і чырвонае, так прыгожа адцяняючай яе смуглявы тварык. Ішла разам зь сяброўкамі, якія галасіста сьпявалі:

> «Бярозанька кудрая,
> Дзе свой ліст падзела?..»

Здаецца, гэтую! Хлопцы ішлі за імі і падыгрывалі на гармоніку. Якім прыгожым рэхам гэтыя простыя песьні разьліваліся па ваколіцах! Цяперака іх ужо нідзе й не пачуеш?! Хрысьціна не сьпявала і мала гаварыла — толькі, час-ад-часу, пераклікалася зь дзяўчатамі. Ён трымаў яе за руку і далонь яе была гарачай. Каля хаты Хрысьціна зьвярнулася да дзяўчат: « — Хадзем спаць сяньня на сена: ноч такая цёплая і прыгожая і сена якраз сьвежае, пахкае...» — «Ага, гэта праўда!» — адгукнуліся дзяўчаты. — «І нас вазьмеце!» — пажартавалі хлопцы. — «А чаго-ж, хадзеце!» — «Ото, цудоўны хаўрус!» — усьміхнулася Хрысьціна. Хлопцы ляглі асобна, дзяўчаты асобна. І, тым ня менш, Крыпец, здавалася яму, чуў кажнае дыханьне Хрысьціны, цяплыню ейнага цела. Быў у такім узьнясеньні, што не жадаў ад жыцьця нічога, абы паўтараліся падобныя вечары вечна!..

Гэтак пачыналася шчырае каханьне. І яму трэба было якраз ехаць. А гэта!? Не, гэтую ён ніколі не кахаў... Ён толькі жадаў яе, як жадаюць шклянку вады ў гарачую прагу... Коця!? Што за ідыёцкая выдумка?! Хіба ня прыгажэй і ня прыямней было-б — Кацярына, Катра, ці як іначай? Вось-жа, абкладаюцца, загортваюцца ў мяшчанскія ўмоўнасьці... Так, Хрысьціна была блізкая, духовая — гэта далёкая, толькі фізычная. Застацца-б яму сярод іх — тады было яшчэ ня позна — пахаць, касіць, малаціць... І на д'ябла гэты іхны партбілет, кар'ера і іншыя атрыбуты! Так — падраць, падраць ім гэты білет і кінуць яго ў вочы! Усё зьвялося толькі да аднаго: адурачыць лёзунгам, ашукаць ды абабраць, «прижать»! Каго? Сваіх!.. свайго... зь кім вырас, зь кім грыз чорную сухую скарынку!..

— Зрада! — амаль прастагнаў і зноў павёў зрокам па крутых бёдрах, абцягнутых крэпдэшынам.

Гузікаваты нос Коці быў лільёвым, вочы бліскуча-вільготнымі.

— Ты всегда и во всем меня только игнорируешь!.. — сказала.

Крыпец, па ранейшаму, нічога не адказваў. Ён цяпер думаў: па сутнасьці кабеты, ці праўдзівей — падобныя мяшчанкі, адыгрываюць у гэтым нямалаважную ролю, у тым, што ўсё зьвялося да аднаго толькі ашуканства. Падай ім крэпдэшын, забясьпеч люксу-

(Заканчэньне на 7-ай балоне)

---

войнаў, як Слуцак. Тройчы нападалі на горад Татары, але калі ў першы раз у 1503 г. яны спалілі яго, дык у наступным годзе князь Сымон нагнаў іх каля Прыпяці і зьнішчыў дарэшты, а ў 1506 г. удава Сымона княгіня Наста адагнала ад гораду самога Махмет-Гірэя. І хіба не трагічна для нашае нацыянальнае еднасьці, што праз тры гады Слуцак цалкам спустошыў князь Міхал Глінскі, помсьцячыся за тое, што прыгожая Наста адмовілася стацца ягонай жонкай. Самы назоў возера Князь адбіў у сабе шкодную для ўсіх нас спрэчку князёў Слуцкіх паміж сабой. У 1579 г. ня толькі Слуцкае княства, але й ягоную сталіцу, падзялілі паміж сабой тры князі. З 1673 г. аж па 1732 г. за Слуцак спрачаліся Радзівілы з Сапегамі. У дадатак тут, у сувязі з кальвінізмам, распальвалася Палякамі не ўласьцівая нашаму народу веравызнавальная варажнеча, аб якой сьветчыць гістарычкая прыказка:

> Старша Слуцка фара
> Чым нямецка вяра.

Аднак, ня гледзячы на спрэчкі князёў ды ксяндзоў, Случчына сталася кузьняй, дзе гартаваліся нашыя нацыянальная еднасьць і дух. У сьлед за Тодарам Еўлашэўскім, Альгердам Абуховічам і г. д., адсюль выйшлі пісьменьнікі нашаніўцы — Цішка Гартны, Хведар Чарнышэвіч, Алесь Гурло і іншыя. Гэта тут пазьней нарадзіліся пісьменьнікі — Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Рыгор Мурашка, Янка Скрыган, Юрка Гаўрук, Алесь Вечар, Міхась Кавыль, Уладзімер Клішэвіч, Рыгор Крушына, Лявон Случчанін, Янка Золак, Арыстарх Крот і ці мала іншых. Гэта тут у сьнежні 1920 г. Беларусы — сяляне, мяшчане, шляхціцы, праваслаўныя, каталікі, бацькі і сыны — стварылі суцэльны слаўны Слуцкі Фронт БНР, што на працягу месяцу стрымліваў наступ расейска-мангольскае гарды. Гэта тут маткі, жонкі і сёстры вышывалі на бел-чырвона-белых сьцягах лёзунг:

> Тым, што першыя паўсталі і пайшлі паміраць,
> каб жыла Бацькаўшчына.

І гэта тут разам зь ягоным аўтарам, удзельнікам паўстаньня паэтам Макарам Краўцовам, загартаваўся ў вагні наш нацыянальны гімн, што канчаецца палкім заклікам:

> Браты, да шчасьця мы падходзім,
> Хай гром грыміць яшчэ мацней
> Ў крывавых муках мы народзім
> Жыцьцё рэспублікі сваей.

На высокім левым беразе Піны, што пануе над тамабочнымі нізінамі Зарэчча, яшчэ за дрыгвіцкія часы паўстаў Пінск. Упяршыню ён прыгадваецца ў Лаўрэнціявым летапісу за 1097 г. Шмат ліха зазнаў ён калісьці ад Татараў, але найбольшае займеў ад гэтмана Януша Радзівіла, які, помсьцячыся за падтрымку горадам атамана Нябабы, зьнішчыў 14 тысяч пінчукоў, спаліў 5 тысяч дамоў, два каталіцкія кляштары, дзьве праваслаўныя і дзьве вуніяцкія царквы. Тутэйшая тагачасная разьня па сутнасьці нічым ня розьніцца ад «Трубчэўскае разьні» ў Мсьціслаўлі, і якраз тады нарадзілася народная гістарычная песьня, што канчаецца зваротам:

> Мы прад Юрыям закленчым,
> Памолімся і заплачам,
> Каб яго сьвятая сіла
> Паканала Радзівіла.

Пінск здаўна зьяўляецца сталіцай беларускага Палесься, на якое таксама здаўна і дагэтуль прэтэндуюць тры народы — Палякі, Расейцы і Украінцы. Аднак на свае дамаганьні яны заўсёды атрымлівалі адпаведны адказ ад беларускага Пінска. Спробы Палякоў давесьці, што — «палешуцы — шчэп польскі» (паляшукі — польскае галінаваньне), скончыліся масавым уваходам паляшукоў у Беларускую Грамаду і ўрэшце-рэштаў высьцябаньнем лазовымі дубцамі палескага ваяводы Даўнаровіча. Расейцы паспрабавалі выкарыстаць свой улюблены палітычны козыр — веравызнавальны, але рэхам гэтага зьявіўся напісаны і выдадзены пінчуком Міхасём Ключановічам зборнік беларускіх праваслаўных паэзіяў «Золак Хрыстоў». Тую частку паляшукоў, якая з прычыны прарасейскага клеру адкалолася ад праваслаўя і далучылася да баптыстых, ачоліў слаўны паляшук, стары беларускі адраджэнскі і рэлігійны дзеяч Дзекуць-Малей. Наезды Украінцаў за часы Пятлюры і пазьней скончыліся хіба тым, што паляшукі не пажадалі ні аднае школы на ўкраінскай мове. І гэтая калісьці дрыгвіцкая зямля давеку нашая. Час тут усё больш і больш працуе на нас. Адыйшла ўжо ў нябыт калішняя прыказка: «Я не чалавек, а Пінчук». Зьнікае, хаця й пазьней, чым тамсям на Беларусі, саманазоў — тутэйшыя. Між іншым сам па сабе назоў гэты зусім ня сьветчыць аб страце свайго нацыянальнага твару і характэрна, што Эстонцы акрамя назову — эсты называюць сябе «Мао Міс», або ў літаральным перакладзе — тутэйшыя. У ўсякім разе прыемна, што пераважная бальшыня тых, якіх дзяды называлі сябе — паляшукамі, пінчукамі, тутэйшымі, цяпер на пытаньне аб іх нацыянальнай прыналежнасьці, адказваюць:

— Беларусы!

У вышнявінах ракі Друці, правага прытоку Дняпра, што зьяўляўся калісьці адным з водных гістарычных шляхоў, паўстаў за даўнія часы горад Друцк. Упяршыню аб ім прыгадваецца яшчэ ў 1092 г., калі кіеўскі летапісец, у сувязі з цудоўнымі зьявамі ў Полацку, зазначыў: «се же знаменье поча быти от Дрьютска». Прыгадваецца ён і ў навучаньні Уладзімера Манамаха, якога два сыны ў 1116 г. паланілі ўсіх жыхароў Друцку і высялілі на чужыну, каб насяліць імі новы горад Жэльню. І калі тагачасны Украінец Уладзімер Манамах нагадывае нам па свайму захопніцтву толькі тыповага Расейца Івана Грознага, які падобна ўсім расейскім царом каранаваўся «Шапкай Уладзімера Манамаха», дык паўстаньне Жэльні нічым ня розьніцца ад паўстаньня савецкага гораду Калінінграда, былога Кёнігбергу, і яшчэ ранейшага Крулеўца. Зьмялчэла з таго часу рака Друць. Яшчэ за царскія часы род тутэйшых слаўных князёў Друцкіх разьбіўся на выганьні адсюль аж на 5 галінаў, як: Друцкія-Сакалінскія, Д.-Любяцкія, Д.-Горскія, Д.-Падбярэскія, Д.-Азёрскія. За савецкія часы зьніклі на берагох Друці шматлікія шляхоцкія засьценкі, як і зьнікнуў цудатворны абраз Божае Маці зь Бялынічаў, што над ёй. Засталося маленькае мястэчка ды найбольшае на Беларусі гарадзішча — сьветка нашае славы.

Наступнай за Друцьцю далучаецца да Дняпра Бяроза. Там, дзе ў Бярозу ўцякае рака Сьвіслач, яшчэ здаўна ўзьнікнуў горад Усьвіслач, што дайшоў да нашых дзён, як мястэчка Сьвіслач. Паўстаньне гэтага гораду не выпадковае — ён зачыняў сабой уваход у раку, на якой вышэй стаялі Ізяслаў і Менск. Таму зразумелыя і шматлікія бітвы, што вакол яго адбываліся. Яшчэ ў 1510 г. кароль Жыгімонт скардзіцца, што Расейцы спрычыняюць Сьвіслачы непараўнальна больш ліха, чым Татары. У 1535 г. Расейцы цалкам спальваюць Сьвіслач, перабіўшы ўсё ягонае насельніцтва ад старых да малых. Пэўне-ж, гэта яшчэ раз даводзіць усю беспадстаўнасьць легэнды аб трох усходніх братох.

Пераходзячы да радзіміцкага Сожу, перш за ўсё прыгадваецца народнае паданьне, што аж з-пад самага Смаленску ён бяжыць навыперадкі, абы толькі абагнаць бацьку свайго Дняпро. Яшчэ ў 12 стаг. там, дзе ўцякае ў яго рака Чачэра, паўстаў горад Чачэрск. Народ сьцьвярджае, што назоў і ракі і гораду паходзіць ад нейкае народнасьці — чачакі, але гэтае паданьне нічым рашуча не пацьвярджаецца. Спачатку горад, падзяляючы лёс народу, пераходзіў ад аднаго княства да другога, потым, згубіўшы Магдэбурскае права і стаўшыся прыватнай уласнасьцю, перажыў панаваньне шматлікіх фэадалаў, пакуль нарэшце Кацярына Другая, «отторженная возвратих», падаравала яго графу Чарнышову. Трэба зазначыць, што апошні па плянах славутага Растэлі пабудаваў тут тры каменных праваслаўных царквы і касьцёл, размаляваныя ўнутры італійскімі мастакамі. Тады-ж у сярэдзіне гораду пабудаваны ў гатычным стылю чатырохпавярховы будынак ратушы, які меў пяць вежаў. Увесь гэты, хаця й ня наскі, але прыгожы архітэктурны ансамбль, цяпер часткова зьнішчаны, а часткова зьіначаны бальшавікамі.

(Далей будзе)

# Патэнцыял насельніцтва Савецкага Саюзу

**Ад Рэдакцыі:** Пытаньне дакладнай колькасьці і росту насельніцтва Савецкага Саюзу зьяўляецца адным з важнейшых у савецкай праблематыцы. Адначасна яно зьяўляецца вельмі цяжкім і складаным, так як савецкія ўлады стараюцца хаваць запраўдны стан свайго насельніцтва. Уладыслаў Вількавецкі зрабіў спробу даць прыблізны абраз прыросту й цяперашняга стану савецкага насельніцтва ў ніжей перадрукаваным намі ягоным артыкуле, які быў зьмешчаны ў № 55 лёнданскага «Дзеньніка Польскага» за 5 сакавіка 1955 году.

*

Генэральны сакратар камуністычнай партыі Савецкага Саюзу Хрушчоў дамагаўся ў сваей прамове з дня 7 студзеня сёлета падняцьця натуральнага прыросту. Зьвяртаючыся да грамадзян савецкае імпэрыі, Хрушчоў заклікаў да ўзапраўды стаханаўскага высілку павялічаньня перасечнай колькасьці дзяцей на сям'ю да траіх. Хрушчоў падчыркнуў, што гэткім спосабам насельніцтва СССР дасягне шыбка 300 мільёнаў.

Заклік Хрушчова зьяўляецца довадам выразнай руплівасьці ўладароў Крэмля аб патэнцыяле насельніцтва Савецкага Саюзу. Праблема патэнцыялу насельніцтва ёсьць пытаньнем першараднае вагі, разважаньне якога ёсьць падставай для ацэны мілітарнай, эканамічнай і палітычнай сілы дадзенага краю. Аб тым, як вялікую вагу прыкладаюць да гэтага пытаньня ўладары савецкай Расеі (гэтак аўтар часта называе Савецкі Саюз — Рэд.), сьветчыць хаця-бы глыбокая тайніца, зь якой хаваюцца статыстычныя дадзеныя аб насельніцтве Савецкага Саюзу, ягонай структуры, веку і натуральнага прыросту.

У рамах гэтага артыкулу пастараюся разгледзіць гэтыя дадзеныя, якія дазваляюць нам ацаніць сілу савецкай Расеі, мераную ў ейным папуляцыйным патэнцыяле.

### ВАЕННЫЯ СТРАТЫ

Папершае, задзержымся над вынікамі вялізарных ваенных стратаў Расеі.

У вагульным ліку стратаў, які ацэньваецца на 25 мільёнаў людзей, найважнейшай пазыцыяй з гледзішча дэмографа ёсьць ацэна недабору нараджэньняў, г. зн. лічба дзяцей, якія не нарадзіліся ў сувязі з ваеннымі ўмовамі, а так-жа тых, якія памерлі з тых самых прычынаў. У савецкай Расеі недабор нараджэньняў ацэньваецца ад 6 да 7 мільёнаў. Якое-ж мае значэньне гэты недабор? Адказ на гэтае пытаньне не цяжкі. Недабор нараджэньняў на працягу пяцёх год вайны адмоўна адбіваецца на колькасьці тых гадавікоў насельніцтва Савецкага Саюзу, якія дасягнуць прызыўнога веку або будуць здольныя да працы ў прамысловасьці ў другой палавіне гэтага дзесяцігодзьдзя. У вабсалютных лічбах гэта абазначае, што калі ў гадох 1952 да 1957 каля 16 мільёнаў хлапцоў і дзяўчат дасягае паўналетнасьці, у пэрыядзе наступных пяцёх год, г. зн. у гадох 1958-1963 толькі каля 9 мільёнаў зможа папоўніць работнікаў прамысловасьці і армію. Недабор насельніцтва, які выносіць каля шасьцёх мільёнаў чалавек у пэрыядзе ўсяго некалькіх год, значыцца зьмяншэньне працоўных рук з 16 да 9 мільёнаў, ёсьць хіба найважнейшым дзейнікам, які зьменшыць папуляцыйны патэнцыял савецкай Расеі ў вадносна недалёкім часе. Ёсьць справай бяссумлеўнай, што зарысаваныя ў вялікіх маштабах гаспадарскія пляны, прадстаўленыя Маленкавам у часе XIX кангрэсу партыі ў Макве ў кастрычніку 1952 году, зьяўляюцца пробай зрабіць далейшы высілак упрамыслаўленьня савецкай Расеі і павялічэньня мілітарнай магутнасьці якраз цяпер, пакуль недахоп працоўных рук ня змусіць уладароў Крэмля да звальненьня тэмпаў новых інвэстыцыяў і збраеньняў. Дзеля гэтага здаецца, што найбліжэйшыя гады будуць дэцыдуючымі для будучыні гаспадаркі Савецкага Саюзу і ягоных стратэгічных плянаў.

### НЕДАХОП СПЭЦЫЯЛІСТЫХ

Мы разглядалі да гэтага часу праблему структуры веку і недабору ў некаторых гадавікох насельніцтва Савецкага Саюзу. Для атрыманьня поўнага абраза патэнцыялу насельніцтва Савецкага Саюзу трэба разгледзіць яшчэ адзін бок гэтага пытаньня, пайменна пытаньне гэтак званых кадраў.

Пытаньне прамысловых і навуковых кадраў або, інакш гаворачы, праблема абвучэньня дастатковай колькасьці кваліфікаваных працаўнікоў у індустрыі, войску й сельскай гаспадарцы — ня ёсьць пытаньнем чужым для Чытачоў. Гэтаму пытаньню прысьвячаецца шмат часу як у краінах за зялезнай заслонай, гэтак і на Захадзе.

У савецкай Расеі праблема кадраў ёсьць таксама палючая. Гэта зьвязана з далёка пасунутай мэханізацыяй ў промысьле. Але ня толькі ў промысьле трэба мэханікаў, майстроў і інжынэраў; трэба іх таксама і ў навачаснай арміі, дзе кажны жаўнер мусіць мець тэхнічную асьвету. А ў сельскай гаспадарцы толькі ўжываньне машынаў, абслугоўваных добра выкваліфікаванымі тэхнікамі, зьменшыць патрэбную колькасьць работнікаў у калгасах.

Савецкая прапаганда корміць нас штодня хвалькоўствам аб быццам-бы найбольш навачасных уладжаньнях і інсталяцыях, уведзеных у ўсіх галінах прадукцыі, у будоўлі каналаў, дарог, у капальнях і г. д. Калі верыць у ўсё гэта, трэба запытацца, ці абвучэньне кадраў адбываецца таксама шыбка, як мэханізацыя прадукцыі. Няма сумлеву, што савецкі ўрад намагаецца павялічыць колькасьць выкваліфікаваных работнікаў. Каля поўмільёна людзей у год атрымлівае фаховыя кваліфікацыі ў школах, на тэхнічных курсах і ў унівэрсытэтах. Але ўвё гэта ёсьць капляй у моры. Цяжка ўзапраўды паверыць, што **якасьць** пасьпешнага абвучэньня ёсьць на дастаткова высокай узроўні. Бэрыя, прамаўляючы ў 1951 годзе, у гадавіну выбуху бальшавіцкай рэвалюцыі, сказаў, што на працягу аднаго толькі году 1950-га «павышана» кваліфікацыі 7-мёх мільёнаў работнікаў шляхам абвучаньня брыгаднай сыстэмай. Нальга прыняць гэтага цьверджаньня бяз сцэптыцызму. Якасьць савецкіх машынаў, нізкая выдайнасьць трактараў савецкай прадукцыі, а хоць-бы гісторыя «падараваных» Расеяй рухомых сходаў пры ўваходзе на лінію В — З Варшавы, якія бесьперапынна псуюцца, зьяўляюцца довадам гэтага. Бязь пераўвялічэньня можна сьцьвердзіць, што недахоп выкваліфікаваных працаўнікоў ёсьць слабым бокам патэнцыялу насельніцтва, а тым самым і савецкай гаспадаркі.

### КАЖНЫ ВОСЬМЫ МУЖЧЫНА — У ЛЯГЕРЫ ПРАЦЫ

Але не на гэтым канец нашых разважаньняў. Існуе яшчэ трэйці слабы бок, пайменна — лягеры прымусовае працы. Ня буду задзержывацца сяньня над тым, колькі людзей у савецкай Расеі знаходзіцца ў лягерах працы. Лічбы ацэньваныя на Заходзе хістаюцца ад 5 да 12 мільёнаў чалавек. Калі навет прыймем гэтую ніжнюю граніцу, значыцца 5 мільёнаў, і параўнаем яе з колькасьцю мужчын у сіле веку, г. зн. ад 18 да 45 год — што выносіць 40 мільёнаў, дык будзем магчы сьцьвердзіць, што кажны восьмы мужчына ў Расеі, здольны да службы ў войску і працы ў прамысловасьці, зьяўляецца вязьнем лягеру працы. Ня трэба хіба даводзіць, што выдайнасьць і якасьць працы вязьня і вольнага чалавека, навет вольнага ў савецкім значэньні, ня ёсьць тая самая. Ужыцьцё вязьняў да карчаваньня сібірскіх лясоў ці капаньня золата на Калыме можа эканамічна аплачвацца. Але трыманьне васьмёх мільёнаў мужчын у сіле веку, як нявольнікаў, абазначае абніжэньне папуляцыйнага і гаспадарскага патэнцыялу на карысьць догмаў партыйнай палітыкі.

15 студзеня 1955 г., № 3 (1018).

## *На словах і на справе*

Кіраўнікі Лельчыцкага і Клецкага раёнаў, пры выпадку, не супраць пагаварыць аб літаратуры, аб яе велізарнай ролі ў справе выхавання чалавека, аб тым, што і яны любяць кнігу, з павагай адносяцца да яе і г. д. На вялікі жаль... гэта не так. Зірніце на гэтыя здымкі...



Вось хатка, амаль на курыных ножках. Стаіць яна на задворках ляснога складу, на краю раённага цэнтра Лельчыцы. Гэта хатка, як сведчыць шыльда, — кніжны (адзіны ў Лельчыцкім раёне) магазін. Зімой і летам адчынены яго дзверы. І не таму, што работнікі запрашаюць пакупнікоў, а таму, што магазін не мае... акон!

А вось поўразбураны будынак з дахам



«ва ўсходнім стылі» (а прасцей — без даху). Гэта — кніжная база Клецкай раённай кнігарні. Тут захоўваецца (а сапраўды — пахавана) на некалькі сот тысяч рублёў рознай літаратуры. Каб дабрацца да дзвярэй «базы», трэба пераадолець цэлыя горы смецця. Кнігі мокнуць круглы год, прытым з усіх бакоў. Зверху іх палівае дождж, заносіць снег, знізу — падмочваюць парсючкі і каровы райкомаўскіх работнікаў, якія трымаюць сваю ўласную жывёлу ў гэтым-жа будынку, адгарадзіўшы яе ад кніг... танюсенькай дашчатай перагародкай.

Вось у якой «пашане» ў Клецку і Лельчыцах кнігі! Хіба пасля гэтага можна паверыць кіраўнікам гэтых двух раёнаў, што яны любяць і паважаюць кнігу.

Фото і тэкст **А. Шашкова.**

Пабачыўшы вышэйшыя рысункі і прачытаўшы тэкст да іх, чытач можа падумаць, што гэта фотакопія зь нейкай эміграцыйнай газэты, якая, як правіла, бязьлітасна дэмаскуе ўвесь бальшавіцкі хвальш аб «радасным і шчасьлівым» жыцьці, — і «культурным», як тут трэ было-б дадаць — ды раскрывае перад сваімі чытачамі жудасную праўду аб бальшавіцкім раі.

Але тут наадварот: гэтую праўду паказваем вышэй якраз за пасярэдніцтвам савецкай газэты. Вышэй зьмешчаныя рысункі і тэкст — гэта аўтэнтычныя фотокопіі зь менскай тыднёвай літаратурнай газэты «Літаратура і Мастацтва» (№ 3/1018 за 15 студзеня 1955 г.). На рысунку зьлева ўнізе адзіны ў Лельчыцкім раёне БССР кніжны магазын, а на рысунку справа ўверсе — кніжная база Клецкай раённай кнігарні. Тэкст да гэтых ілюстрацыяў няхай прачытаюць чытачы самі. Ён ніякіх камэнтараў не патрабуе.

Як ведама, бальшавіцкая прапаганда заўсёды гаворыць толькі аб «нябывалых дасягненьнях» у «краіне перамогшага сацыялізму», а ўсе свае благія, г. зн. запраўдныя бакі старанна хавае. Але бываюць рэчы на столькі жахлівыя й крычачыя, што й бальшавікі змушаныя гаварыць аб іх голасна. Вось-жа да такіх крычачых рэчаў належаць і вышэй пададзеныя. Гэтак у запраўднасьці выглядаюць у савецкай Беларусі раённыя кніжныя магазыны.

Вось гэтак на справе выглядаюць «клопаты партыі і ўраду» аб разьвіцьці і росьце беларускай культуры.

### ШОЎК НА БЕЛАРУСІ

Як паведамляе Нараўлянская раённая газэта (Гомельская вобласьць), калгас «За Радзіму» займаецца шаўкаводзтвам. Гэтая новая галіна гаспадаркі пачала разьвівацца ў сельскагаспадарчай арцелі зусім нядаўна, але ўжо дасягнуты значныя посьпехі.

### ЛЯМПЫ ІЛЬІЧА

Ніжэй падаем передрук ліста, зьмешчанага ў газэце **«Советская Белоруссия» з 10. II. 1955:**

«Мне штодзённа прыходзіцца езьдзіць у прыгарадным цягніку, таму што я жыву ў горадзе Вялейка, а працую ў Маладэчне. Мне хацелася-б праводжаны ў вагонах час выкарыстоўваць больш рацыянальна — пачытаць газэту ці кнігу. Аднак у цягніку, які курсуе ад станцыі Друя да Маладэчна і назад, няма электрычнага сьвятла. Асьвятляецца кажны вагон толькі аднэй сьвечкай ці карасінавай лямпай. Акрамя гэтага, цягнік часта не ацяпляецца.»

**«Пасажыр Д. Сасенкаў»**

# Спозьненае каханьне

**(Заканчэньне зь 6-ай балоны)**

совай утульнасьцю: кут, мэбля, харчы — яны «няздольныя» стаяць у чарзе нараўне зь іншымі, — аўта, тэятр. канцэрт і кіно, — ну, і партыйны муж мусіць вышукваць шляхі і дарогі атрымаць і падаць ім усё гэта... Адсюль і «адказныя працаўнікі», «члены ўраду», «бронь на кватэры», «зачыненыя разьмеркавальнікі», «авансы на абсталяваньне кватэр», «камандыроўкі ў мяккіх купэ» і ўсё іншае. Яны ня хочуць знаць таго, што нехта ўсё гэта мусіць аплаціць сваёй цяжкой працай, нехта мусіць жыць у брудзе і галіце!.. Пыха — гэта эгаізм у вышэйшай ягонай стадыі! Калі так, дык ці ня лепш тады ўжо нагола: грошы вырашаюць усё! Прынамсі, быўбы схаваны хоць гэны гвалт — хто на што здольны...

— Ты угрюм, неприветлив...

Бачучы, што мужа нельга нічым вывесьці зь ягонай відочнай раўнавагі, Коця выйшла ў калідорчык, дзе вісеў дадатковы тэлефон, зачыніла за сабой дзьверы і пачала званіць:

— Тацяна Іванаўна? Магу я да вас зайсьці цяпер? Ведаеце, нудна! Ага! Мой вярнуўся з раёну ня ў гумары, сварыцца... Можна? Добра, я хутка прыду, празь якіх дзесяць мінут...

Тацяна Іванаўна, жонка загадчыка аддзелу культуры і прапаганды райкому, ведала ўсю паднаготную ўсіх адказных і неадказных працаўнікоў раёну; ведала, таксама, і аб інтымных дачыненьнях Коці з упаўнаважаным ДПУ (тады яшчэ ДПУ), бялявым і яшчэ незастарэлым самотніку... Як толькі Коця павесіла слухаўку, яна пратэлефанавала яму:

— Дома, грэшны затворнік?! Сядзіш усё над сваімі справамі?.. Прыходзь, згуляем у «дурачка», і Коця якраз будзе праз дзесяць мінут...

Коця, у гэты час, якраз папраўляла лёкі і націрала пудрай нос. Пазіраючы на самотную лебедзь на пудэлку з пудрай, думала: — «Если так, то и я буду брать от жизни все, что возможно... Этакий неблагодарный!..»

У той момант, калі ў Тацяны Іванаўны адыгрываўся «дурачок», а нага ўпаўнаважанага ДПУ цёрлася пад сталом аб каленка Коці, Крыпец стаяў перад вакном у сваім габінэце. Аплаткі халіпы мітусіліся за шклом па-ранейшаму і малюнкі капаньня картоплі ў калгасе, пасінелыя ногі кабет і дзяцей, адубелыя іхныя рукі, дзідамі стукалі ў ягоныя мазгі.

— Ну, што-ж, выканальнік партыйных дырэктыў, дагуляўся!? І што далей? Застанешся шрубкай у апараце і будзеш папіраць сваё і чужое сумленьне, як і раней, ці, можа, годзе?! Калі годзе, дык што-ж тады: застаецца толькі наставіць на вуха вось гэтае чорнае вочка... і пацягнуць за дужку з пад нізу!.. Страшна? Дрыжаць лыткі? А тады ня страшна было, як падводзіў пад гэтае вочка іншых?! Ці лічыў ты, колькі не разьмінулася зь ім тваіх-жа падуладных? Ня лічыў? Падлюка! А ці бачыў ты, як, употайках ночы, гэтыя-ж твае падуладныя круцяць жорны, каб змалоць кулак недасьпелага збожжа, што ўкралі на самімі-ж засеяным калгасным полі? Ня бачыў? Двойчы падлюка! А ці еў ты іхны хлеб, што дало ім «шчасьлівае калгаснае жыцьцё», які яны называюць «кізяком», гэта значыць салома з гноем? Ня еў? Яшчэ раз падлюка! А ці стаяў зь імі па цэлых начох у чарзе, каб прыкрыць галоту дзяцей? Ці вазіў на рынак адабраныя ад дзяцей масьлейка і яйкі? Ці цягалі цябе на пастарунак міліцыі за спэкуляцыю? Ці судзілі? Ці садзілі ў турму? Ці пасылалі капаць каналы і высякаць лясы на далёкай поўначы? Не? Няма табе прабачэньня! Адно, што застаецца — гэтае вочка!..

Толькі ён вынес сабе гэты прысуд, як увайшлі: Коці, загадчык аддзелу агітпропа і ўпаўнаважаны ДПУ. І, дзіўна, Крыпец зьбялеў, зубы ягоныя застукалі і рука, якая ляжала ў кішэні на рэвальверы, абамлела і стала бязраднай. Коці пайшла ў спальню зьняць некаторыя свае ўборы, а мужчыны паселі справа і зьлева ад Крыпеца на канапе. Ціканьне гадзіньніка на тумбачцы, у кутку габінэту, мерыла час. Крыпец напружана маўчаў.

— Загатоўкі бульбы, здаецца, зрываюцца? — раптам прамовіў упаўнаважаны.

— Паводля астатніх вестак: Забалоцкі сельсавет — 17 працэнтаў; Кручанскі — 12; Гарадзецкі — 14; Сяргеевецкі — 11; — выцадзіў загадчык культаддзелу. — А тэрмін сыходзіць празь дзесяць дзён...

Крыпецу хацелася закрычаць, затопаць нагамі, прагнаць гэтых людзей ад сябе; ён, навет, зноў намацаў у кішэні рурку з вочкам. І, тым ня менш, ён усё-ж сказаў толькі — і досыць лагодна:

— Значыць, не на вышыні твая прапаганда і гэта ўсё!..

— Я хацеў-бы паставіць адно пытаньне: што, канкрэтна, зроблена райкомам для стымуляцыі загатовак? — зноў прамовіў упаўнаважаны.

Вусны ў Крыпеца як-бы ўздрыгануліся і ён з паўусьмешкай адказаў:

— Што зроблена? Вось прывёз пак брашураў і плякатаў... для стымуляцыі...

— Таварыш сакратар, як відаць, моцна захварэў... — халодным тонам канстатаваў упаўнаважаны.

— Зразумела, сьнег, вільгаць і ўсё такое... — зь ледзьве відочнай гіроніяй дадаў загадчык. — Усё гэта, бясспрэчна, кладзецца на псыхіку...

— Пульс, кажаш, паніжаецца!..

— Вось гэта!..

І яны абодвы так весела зарагаталі, што твары іхныя забарвеліся.

Крыпец сьцяў тонкія вусны і на твары ягоным зьявіліся чырвоныя плямы. Ён працягваў думаць: «І вось-жа будуем... Што мы будуем? Турму, яшчэ мацнейшую і паскуднейшую, чым была царская...»

— Я ведаю, вы прыйшлі мяне заарыштаваць? — сказаў. — А што калі я вам ня дамся? — І ён зноў намацаў элястычную дужку курка пад рэвальвэрам.

— Ты не разважай, як абываталь, а як член ЦК! — кінуў упаўнаважаны. — Усё, што адбываецца, павінна паслужыць на карысьць партыі...

— Дакладней!..

Упаўнаважаны ўзьняў на яго вочы.

— Што за балаган адбыўся ў калгасе імя Будзённага? — спытаў катэгарычным тонам.

Крыпец успомніў: вядучы гутарку з калгасьнікамі, ён мімаходам кінуў наступную фразу: «Гэта праўда — з вас патрабуюць цяпер больш, чым вы можаце даць, але гэта, можа, і на лепшае — хутчэй будзе які-колечы заварот кішак...» Ведаў: ім ужо ўсё ведама. Не адказваў на пытаньне. Адчуваў, як нешта цяжкое і гарачае разьлілося па ўсяму ягонаму целу. Ён напружыў цягавіцы. І ў той-жа момант адчуў, што яго сьціснулі з абодвых бакоў. Крыпец зноў зьбялеў і ўвесь як-бы выцягнуўся. Кончык курка ўпіраўся ў падушачку вялікага пальца ў той час, як паказальны ляжаў на дужцы. Азірнуўся налева і направа. Абодвы ня спускалі зь яго вачэй.

— Я думаю, нам лепш за ўсё пагаварыць аб усім ня тут, а ў бюры райкому! — заўважыў упаўнаважаны.

Крыпец цяжка падняўся з канапы. У тым-жа парадку, у якім сядзелі, падняліся і абодвы астатнія. Падыйшлі да дзьвярэй. Тут вісела шапка «а ля Цімашэнка» і ватоўка. У гэты час із-за дзьвярэй спальні паказалася Коця.

— Ужо ўходзіце? — спытала. — Так хутка?!

Насунуўшы «а ля Цімашэнку» да вушэй, Крыпец падумаў: «Ніколі і ня сумляваўся, што ты прадажная...»

Калі выйшлі на двор, упаўнаважаны запрапанаваў:

— Мы вас папросім здаць зброю, часова, зразумела, да высьвятленьня справы!..

— А хіба ўжо заведзена і справа?

— Дзень-два і або будзе заведзена, або ня будзе...

Дрыготка, раптам, скавала ўсё цела Крыпеца і ён моцна пачаў ляскаць зубамі...

**Нью Ёрк, лістапад, 1952.**

**Мартын Люціч**

# Вывазы Беларусаў на цаліну

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

на цаліну будзе значна павялічана. Аб гэтым сьветчаць сьвежыя факты. Нядаўна эшалон перасяленцаў адпраўлены на цаліну зь Менскай вобласьці. «Известия» за 20 студзеня гэтага году паведамілі, што на Беларусі падрыхтаваны 20 тысяч моладзі дзеля адпраўкі на цаліну.

У большасьці Беларусаў адпраўляюць у Кемераўскую вобласьць. Што чакае там нашых суродзічаў? Апрача цяжкай калгаснай працы, дзе мала працоўнай сілы, Беларусаў сустрэнуць там няпрывычныя кліматычныя ўмовы. Як падае «Большая Советская Энциклопедия», том 20, бач. 511, клімат у Кемераўскай вобласьці рэзка кантынэнтальны. Кароткае, але гарачае лета, зьмяняецца доўгаю зімою, калі марозы даходзяць да 50 градусаў, а летам гарачыня дасягае да 35 градусаў. Сьцюдзёныя вятры дзьмуць з поўначы і з усходу. Такія ўмовы жыцьця чакаюць нашых суродзічаў на цаліне Сібіру й Казахстану.

На XIX сьезьдзе камуністычнай партыі ў 1952 годзе была прынятая пастанова правесьці асушальныя працы ў Палескай нізіне. Асушаныя плошчы Палесься вельмі ўрадлівыя. Зернавыя культуры даюць па 20—25 цэнтнараў з гэктара, бульба — 230 цэнтнараў, каўчуканосны кок-сагыз даваў да 250 кл. чыстага каўчуку з гэктару, капуста дае ад 350 да 600 цн. з гэктара. Асабліва добра родзяць каноплі, якія даюць да 30 цэнтнараў валакна з гэктара. На асушаных тарфяніках растуць высокай якасьці травы з укосамі па 120 цн. з гэктара. Усе гэтыя багацьці знаходзяцца ў цэнтры Эўропы з лагодным кліматам, які гарантуе край ад засухаў і неўрадлівых гадоў. Дзеля якой-жа патрэбы перасяляюць Беларусаў на сухавейныя саланчаковыя стэпы? Навет пры тых малых плошчах, якія мэліраваныя ў Палескай нізіне, можна атрымаць дзесяткі мільёнаў пудоў пшаніцы, каб былі толькі вольныя працоўныя рукі. Ужо цяпер у Палескай нізіне дзесяткі тысячаў асушаных тарфянікоў ня выкарыстоўваюцца, ляжаць мёртвым капіталам і зарастаюць хмызьняком і дробным лесам. «Скарыстаньне новых зямель у рэспубліцы недапушчальна адстае. Па зьвестках міністэрства мэльярацыі Беларускай ССР, тут ня выкарыстоўваюцца больш 190 тысяч гэктараў асушаных тарфянікоў... Падлічана, што калі-б яны былі засееныя жытам, пшаніцаю, аўсом, або просам, то навет і пры няспрыяльнай пагодзе беларускія калгасы за адзін год дадаткова атрымалі-б ня менш 10 мільёнаў пудоў зярна. А ў шмат якіх мясцох вялізарныя масывы тарфянікоў не апрацоўваюцца па некалькі гадоў засаб», — піша карэспандэнт «Праўды» Ю. Зіньковіч («Праўда» за 21 кастрычніка 1954 г. І. Зіньковіч «На новых землях Палесься»).

Паўстае пытаньне, у якой-жа меры кампанія па асваеньню цаліны і залежных зямель у Сібіру і Казахстане адаб'ецца на працах па асушцы Палескай нізіны? Гэтае пытаньне высьвятляецца з гутаркі Н. Хрушчова з ангельскім грамадзкім дзеячом і вучоным Джонам Бэрнанам. Бэрнан падаў Н. Хрушчову рэпліку: «Мне здаецца, што разьвіцьцю Азіі цяпер прыдаецца больш увагі, чым Эўропе». Н. Хрушчоў на гэта адказаў так: «Мы робім усё магчымае да павышэньня ўраджайнасьці на ўсіх плошчах. На цяперашні час найбольшая эканамічная выгада ёсьць у скарыстаньні новых зямель». З гэтага можна зрабіць вывад, што праблема асушэньня Палескай нізіны будзе прынесена ў вахвяру асваеньня цаліны і залежных земляў. Гаворачы аб ірыгацыйных працах, Н. Хрушчоў сказаў вучонаму Бэрнану: «Ірыгацыя будзе праводзіцца там, дзе гэта выгадна. Аднак на ірыгацыю мы ня робім асноўнага націску». Скарачэньне ірыгацыйных працаў на ўсходзе дае падставы дапушчаць, што і мэльярацыйныя працы першай чаргі і важнасьці таксама зьнятыя з пляну, у тым ліку і асушэньне Палескіх балотаў.

Нарэшце аснаўнымі прычынамі, якія будуць важнейшымі перашкодамі ажыцьцяўленьня праблемы асушэньня Палескай нізіны, будзе адсутнасьць працоўнай сілы ня толькі праводзіць асушэньне балотаў, а галоўнае выкарыстаць мэльяраваныя плошчы, даглядаць і трымаць у парадку гідратэхнічныя збудаваньні. На заканчэньне гутаркі з Бэрнанам Н. Хрушчоў сказаў: «Выпушчаныя заводамі ў гэтым годзе і наступным 1955 годзе гусянічныя трактары, плугі, сеялкі і некаторыя іншыя сельскагаспадарскія машыны будуць накіраваныя галоўным чынам на новыя землі» («Праўда» 21 сьнежня 1954 г.). Значыць, тэхнічныя сяродкі асваеньня палескіх балотаў таксама будуць і ў гэтым годзе значна абмежаваныя. Таму няма надзеі, што спрадвечная праблема беларускага народу ператварыць Палескую нізіну ў квітнеючую ўрадлівую раўніну застаецца далей прыгожымі марамі.

Міністэрства шляхоў зносін СССР арганізавала спэцыяльныя цягнікі Менск-Паўладар Паўднёва-сібірскай чыгуначнай дарогі. Гэтыя цягнікі да 15 красавіка будуць узмоцненымі тэмпамі вывозіць Беларусаў на ст. Паўладар, якая знаходзіцца ў Казахстане паміж Акмалінскам і Барнаулам. З Паўладару беларускіх высяленцаў разьмяркуюць і разьвязуць па стэпах Сібіру і Казахстану на асваеньне цаліны і залеглых земляў.

**В. Будзімер**

### У СПРАВЕ БАНКАЎСКАГА КОНТА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Многія, пераказваючы грошы на банкаўскае конто «Бацькаўшчыны», падаюць адно нумар конта і назоў банку, а не падаюць собсьніка конта, а таму гэтак пераказаныя грошы часта вяртаюцца назад. Таму ў далейшым просім грошы за газэту, як і за кніжкі, пераказваць на гэткі адрас:**

**Administration der weissruthenischen Zeitung „Backauscyna", Bankkontonummer 357-125, Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München**

# З жыцьця БАПЦарквы у Манчэстары

З гораду Манчэстар і ягоных аколіц прыбыло шмат Беларусаў на зборку Беларускага Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці, якая адбылася 27 лютага сёлета ў залі Беларускага Дому пасьля Божае Службы.

Божую Службу адправіў а. А. Крыт а гадзіне 12-ай у англіканскай царкве сьв. Яна і адслужыў спэцыяльны Малебен за выздараўленьне сп. Ільлі Шкляніка, які ўжо ад даўжэйшага часу знаходзіцца ў шпіталі цяжка хворым. Раней ён быў актыўным сябрам Брацтва і ўсіх іншых беларускіх арганізацыяў. Усе пажадалі яму хуткага выздараўленьня, веручы, што і надалей будзе выдатна працаваць для дабра беларускае справы.

Зборка Брацтва й Сястрыцтва аддзелу ў Манчэстары распачалася адсьпяваньнем «Цару Нябесны». Яе адчыніў кіраўнік аддзелу Брацтва сп. Ул. Гінько. Пасьля выбару прэзыдыюму зборкі справаздачу зь дзейнасьці і грашовай гаспадаркі здаў сп. Ул. Гінько, які быў кіраўніком аддзелу Брацтва праз тры гады. Із справаздачы вынікала, што шмат работы было праароблена для справы сваей БАПЦарквы, а сп. Гінько належыцца шчырая падзяка за так умелае кіраваньне аддзелам праз гэтак доўгі час.

Старшыня цэнтралі Брацтва й Сястрыцтва а. Аляксандар зрабіў абшырны даклад аб вялікім значэньні Брацтва ў даўныя часы на Беларусі і аб яго вялікім значэньні ў сучаснасьці. Яно адыгрывае вялікую ролю ня толькі ў рэлігійнай галіне, але таксама і ў беларускім нацыянальным жыцьці.

У парахвіяльную ўправу БАПЦарквы, якая будзе кіраваць аддзелам Брацтва і Сястрыцтва, выбраныя: за старшыню — сп. К. Шыбіцкі, за сакратара — сп. М. Яськевіч, за скарбніка — сп. М. Віценчык. Быў намечаны плян працы на будучыню, пайменна — рабіць пэрыядычныя паседжаньні управы, склікаць зборкі сяброў аддзелу Брацтва, чытаць рэфэраты і ладзіць Богаслужбы.

У далейшым сп. М. Яськевіч прачытаў пажадальны ліст ад Яго Высокапраасьвяшчэнства Высокапраасьвяшчэньнейшага Архіяпіскапа Васіля, у якім ён зьвяртаецца зь ветлівай просьбай аб рэгулярным матарыяльным падтрыманьні нашага паважанага а. Крыта. Усебакова прадыскутаваўшы гэтую справу, было пастаноўлена зьвярнуцца да беларускіх арганізацыяў у Вялікабрытаніі: да ЗБВБ, ЗБК і сэктару Рады БНР з просьбай, каб кажная з успомненых арганізацыяў перасылала штотыдня 25% свайго даходу на царкву і ўтрыманьне сьвятара.

Зборка закончылася адсьпяваньнем «Достойно есть», пакідаючы добрае ўражаньне на прысутных. Новавыбранай парахвіяльнай управе астаецца пажадаць памыснасьці ў працы.

**М. Стаўпіскі**

## ШУКАЮЦЬ

**Садоўскага Аляксандра,** які ў 1950 годзе выэміграваў у Аўстралію, шукае Міхал Корзін. Весткі слаць на адрас:

Michal Korzin, Rosenheim, DP-Siedlung, Deutschland.

*

**Дусю Гаварушку з маткаю** із станцыі Чырвоны Бераг Жлобінскага раёну, Гомельскай акругі, якіх Немцы прымусова вывезьлі ў Нямеччыну 3 кастрычніка 1943 году, і **Хвядося Пакідку** із Стрэшынскага раёну Гомельскай акругі, якога 11. 10. 1943 году вывезьлі Немцы ў Нямеччыну і які да 1945 году працаваў у паравозна-рамонтным дэпо ў Трыеры — шукае Мікалай Поболёвец. Весткі слаць на адрас:

**Nikolai Pobolovez,** Oberlinxweiler Siedlung (Saar).

## Зь Беларускага жыцьця у Гішпаніі

### ПАПУЛЯРЫЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНІ І МУЗЫКІ

Пасьля ўдачнага канцэрту беларускіх песьняў і музыкі з грамафонных плітак, які адбыўся 28 лістапада летась у Калежы сьв. Якуба ў Мадрыдзе, на просьбу шматлікіх студэнтаў гэты канцэрт быў паўтораны некалькі разоў. Пайменна, з варыяцыяй праграмы быў дадзены канцэрт 6-га студзеня, 23-га студзеня і 6-га лютага ў інтэрнацыянальным калежы, а 10-га лютага, на просьбу студэнтак, у жаночым калежы «Padre Poveda».

Варта адцеміць, што найбольшую папулярнасьць сярод студэнтаў здабылі сабе народныя песьні «Рабіна», «Ой рана на Івана», «Вечаркам за рэчкаю» і арыя з опэры «Міхась Падгорны», а з народных танцаў — «Лявоніха» і «Крыжачок». На канцэртах заўсёды было шмат прысутных. Да арганізацыі іх ня мала прычыніўся славацкі студэнт Іван Кошыцкі, катораму на гэтым месцы складаецца шчырая падзяка.

### ДАКЛАД НА ТЭМУ: «БЕЛАРУСЬ І ПРАБЛЕМА ЭЎРАПЭЙСКАГА ФЭДЭРАЛІЗМУ»

Дня 26-га лютага, на Сэмінары Сучасных Праблемаў, студэнт Факультэту Палітыкі і Эканоміі сп. Я. Сурліва прачытаў вельмі зьмястоўны даклад на тэму «Беларусь і праблема эўрапэйскага фэдэралізму». Даклад складаўся з трох частак. У першай частцы разглядалася неабходнасьць цясьнейшага міжнароднага супрацоўніцтва, а асабліва сярод народаў паняволеных сяньня бальшавікамі, мэтазгоднасьць эўрапэйскай фэдэрацыі, як таксама нашыя пагляды адносна гэтае праблемы і тыя ўмовы, якія дазволілі-б нам прыняць удзел у падобных панаддзяржаўных арганізмах.

У другой частцы быў дадзены крытычны агляд усіх існуючых фэдэральных канцэпцыяў і нашае становішча адносна кажнае зь іх.

Наканец, у трэйцяй частцы, была прадстаўленая нашая канцэпцыя эўрапэйскае фэдэрацыі, наагул, і фэдэрацыі краінаў Цэнтральнае і Усходняе Эўропы ў васаблівасьці.

Недахоп жаролаў на ўспомненую тэму прынёс дакладчыку ці мала труднасьцяў. Аднак трэба прызнаць, што ён апраўдаў поўнасьцю ўзятае на сябе заданьне. Даклад характарызаваўся канкрэтнасьцяй, дакладнасьцяй, лягічным ды рэалістычным падыходам да кажнай праблемы. Дакладчык належна заслужыў на буру воплескаў і агульнае прызнаньне з боку аўдыторыі.

Для многіх, уключна з прафэсарамі, гэта была добрая нагода даведацца больш пра Беларусь і пра нашае становішча адносна пытаньня эўрапэйскае фэдэрацыі. Довадам гэтага можа паслужыць хаця-бы факт, што шмат хто з прысутных жадаў атрымаць копію дакладу дзеля глыбейшага абзнаямленьня зь ім.

Былі і такія, каторым упяршыню, хаця-нехаця, раскрыліся вочы на факт існаваньня ня нейкае пасыўнае этнічнае масы, званай беларускай, але моцнай, маладой, дасьпелай палітычна нацыі, зь якой трэба лічыцца і якой нельга ўжо далей ігнараваць.

Беларусь будзе гатова заўсёды прыняць удзел у кажнай фэдэральнай канцэпцыі, якая зможа гарантаваць ёй незалежнасьць і магчымасьці культурнага і гаспадарча-эканамічнага разьвіцьця.

У канцы завязалася ажыўленая дыскусія, у якой прымалі ўдзел шматлікія прысутныя і якая трывала каля дзьвюх гадзінаў.

**В. Сенкевіч**

### АБВЕСТКА

Усе беларускія выдавецтвы і асобы, якія прысылаюць кальпартаваную мной у Англіі беларускую прэсу, ветліва прашу **слаць пачкі з прэсай ды паручаныя лісты толькі на адрас, пададзены ніжэй:**

Alexander Laszuk, 97, Moore Park Rd., London, S. W. 6, England

Звычайныя лісты прашу слаць на мой **прыватны адрас:**

A. Laszuk, 174, Finborough Rd., London, S. W. 10, England

### АБВЕСТКА

Падаецца да ведама ўсіх беларускіх выдавецтваў на чужыне, што Беларуская Кальпартажная Агенцыя ў В. Брытаніі прыймае для кальпартажу беларускую эміграцыйную прэсу ды для прадажы кніжкі, паштоўкі і грамафонныя плíткі на камісовых умовах.

Беларуская Кальпартажная Агенцыя высылае таксама зь В. Брытаніі іншамоўную прэсу, кніжкі, а таксама прэсу, кніжкі ды грамафонныя плíткі беларуска-савецкага выданьня.

Па інфармацыі зварочвацца на адрас Агенцыі:

B. K. A. c/o A. Laszuk, 97, Moore Park Rd., London, S. W. 6, England

### АБВЕСТКА

Беларус пражываючы ў Францыі хацеў-бы пазнаміцца зь Беларускай (у веку да 35 год, можа быць з адным дзіцём) з мэтай жанімства.

Зацікаўленых просіцца пісаць на адрас «Бацькаўшчыны».

**Фэльетон**

# Ня буду распакоувацца!..

Ад часу, як рэдактар Каранеўскі аблаіў мяне і забараніў мне ня толькі распакаваць чамадан, але навет мець сумлевы адносна ягонай непамыльнасьці ў нашых грамадзкіх догмах, мяне агарнула чорная дэпрэсія. Бадай-бы сьвіньня панюхала гэткі лёс!.. Даводзіцца рэшту жыцьця прасядзець на чамадане. Што праўда, ўжо сяджу пятнаццаць з паловай год — быццам-бы прывык. Але ўсё-ж сядзець да запэцканай сьмерці на адным чамаданчыку (на другі ніяк не магу ўзьбіцца) — моташна...

Дык і прыссалася да мяне ведзьма настальгія, што ні крэйдай сьвянцонай ад яе не адхрысьцішся, ні хвігамі не адабешся. Горш, чымся ад бессаромнай дзеўкі.

Стаў я тады з памешканьня часьцяком высмыквацца ды на станцыю бегаць. Заўсёды мяне цягне зірнуць на расклады цягнікоў: а можа там ужо знайду цягнік, які мяне забярэць з гэтага імправізаванага папасу. Стаю, гляджу — вочы праглядзіў. Няма. Прыходзяць і адыходзяць «Таўэрн Экспрэсы» «Ор'енты», «Аўстрыя Экспрэсы», але ані мой няпрыходзе, ані да мяне ніхто ня прыбывае. А дома настальгія пад лыжачкай сьсець, худы, нераспакаваны чамаданчык кажухом пылу аб'імшыўся і нікому выказаць тугі. Ёлуп ты мой каханы!... Ня дзіва, што я пачаў памаленьку на станцыі абжывацца. Вазьму «бок» або і навет штось зьместаўнейшае і сяджу цэлыя гадзіны. Людзі сядзяць, чакаюць на цягнікі і я чакаю. Людзкія цягнікі прыходзяць і адыходзяць, а я сяджу...

І вось аднойчы, прыйшоўшы на гэта штодзённае паседжаньне, я ўбачыў рэдактара Галубіцкага. Ён таксама сядзяў сумна зьвесіўшы галаву і аберуч трымаў за талію шклянку піва. Я прысеў да ягонага століка.

— Што-ж ты так ударным парадкам нос павесіў?

— Ты яшчэ пытаеш, правакатар! Вылез як целяпень з саломы ды раздражніў ліха...

— Нічога ня цямлю, за што ты маю фамілію расстаўляеш...

— Усё-ж гэта праз твае дурныя «Сумлевы». Уткнуў палку ў муравейнік і бачыш, як усё ўзбурылася. І вось табе бязьдыскусыйны загад не разпакоўвацца. Ужо блізка месяц, як я прыехаў, грошы яшчэ не атрымаў, сарочкі, шкарпэткі ды іншае прычындальле запакаваныя і чамадан адчыніць забаронена. Сарочка зусім зашмальцавалася, што аж шалік ськ інуць сорамна, шкарпэткі на пятах працёрліся, аж мушу задам на перад нацягваць, хаця ў чамадане сем пар...

— Пацешся, браток, у мяне аўтэнтычная ідэялягічная грыжа. Дык што-ж «шулім!»

— Ну, «Хаім!» Адылі чуць пхаем. Але адносна «апропо». За што на цябе вызьвярыўся нейкі ці нейкая індэфініда Лазука? Ён, бачна, не расчытаўся, бо вы-ж фактычна мелі аднальковыя думкі?

— Мусіць яму трапікальны клімат пашкодзіў. А мо' таму, што я калісь у Лёндане выказаў сумлевы адносна ягонай гэніяльнасьці. А ты хіба ведаеш, што гэта ў нас значыць. Можаш спадзявацца нажа ў ныркі з за кажнага чамадана.

— Ты заўсёды з сваімі сумлевамі бяды напорыш...

— Прабач, браток, я не хацеў. Ну дык яшчэ раз — «шулім!»

— Што-ж рабіць. Ну «Хаім!»

Стукнуліся мы шклянкамі раз і другі. Нейкі чартоўскі флюйд бунту заварушыўся ў маей думцы. Мусіць я яго сёрбнуў з хмельнай брагі.

— А што, каб мы не паслухалі, ды пайшлі зьмянілі сарочкі і шкарпэткі?...

Яму спачатку вочы заблішчэлі, але хутка замуціліся.

— Не, братка, apage satanas, ня спакушай. Я-ж зь дзеда-прадзеда патрыёт. Пасьля нас заядуць — скажуць, што рэнэгаты, адшчапенцы, антыграмадзкія тыпы... Лепш не...

— Ну што-ж, як уважаеш. — (Тут я хітра бліснуў вачмі). — Дык трымайся, а я пайду спаць. Але шкарпэткі дык прынамся папалашчы...

Я таму хітра бліснўў вачмі, што меў гатовы плян. Прыйшоўшы дамоў, я дакладна пазапіраў усе дзьверы, спусьціў фіранкі на вокнах, пасьля ціхенька згарнуў пыл з чамадана і адчыніў. Рукі мае крышку трасьліся, быццам-бы куры краў, але выняў чыстую бялізну, хуценька памыўся і рынуўся на ложак. Было ціха, будзільнік цыкаў раўнамерна, за вакном вецер шапаліў сьнегам па шыбах. Я адчуваў гэдоністычную роскаш чыста вымытага і ў чыстую бялізну апранутага індывідуума. Паволі лёганькі туманец развадзяніў маю сьведамасьць і я заснуў.

Але вось мне прысьніўся жудасны сон: Здавалася быццам-бы з майго адчыненага чамадана пачало выскакваць рознае страхоцьце: ведзьмы, вадзянікі, лясуны, гарпіі, хімэры ды іншая ўсялякая чартаўня. Бацюхны! Лысая Гара або Ноч Вальпургі! І ўся гэта кашмарная хэўра пачала навокал мяне дзікія сьвістапляскі, патрасаючы віламі, качэргамі, памёламі ды крычучы:

— Рэнэгат! Зраднік, Сыбарыт! Тып! Я крычу: «А кыш! А кыш! Зьгіньце, прападзіце! А кыш, нячысьцікі!»

Не памагае. Я чым хутчэй лезу за пазуху па сьвянцоную крэйду. Няма! Давай я ім соўваць хвігі, але яны яшчэ больш расчарціліся. Думаў я, што ўжо мне будуць капцы. Але адкуль не вазьміся індэфініда Лазука. Як ня сьвісьне-ж ён у два пальцы! Чартаўня спалохалася, а найстарэйшая ведзьма выпусьціла з рук качаргу. Лазука хапае яе і даець мне:

— Сядлай — кажа — гэтага Пэгаза ды рві проста на Пікадылі! Там пачакай на мяне. Аба мне ня турбуйся — я маю практыку!...

Я не чакаў далейшых намоваў, але чым хутчэй ажаргаў качаргу ды крыкнуў: «Гарачыба!» Качарга рванулася быццам-бы МІГ-15.

У гэту хвіліну я прабудзіўся абліты сьцюдзёным потам. З за вакна мутнымі ліхтарамі глядзела на мяне чужая, зімовая ноч. Усё-ж такі я сказаў сабе:

— Не. Пакуль ня будзе дазволу, не распакуюся!...

**пс**

## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
Vasil Šcečka, 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
Mr. M. Palashuk, 17 Sparks Ave, Fairfield, Vict., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St.,** East Perth, W. A. Australia.

**Бразылія:**
Carlos Cimafejčyk, Prasa 76, Tiridentes. Curitiba - Parana.

**Канада:**
Prince Arthur Lunch, 73, Prince Arthur St. E. Montreal, Q., Canada.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у пасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**